● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

11 красавіка 1996 г. чацвер, № 97 (22900)



# ЗВЯЗДА

## «МЫ АБАВЯЗАНЫ ПАДТРЫМЛІВАЦЬ НАШЫХ ТАВАРАВЫТВОРЦАЎ»

**Звыш 80 тон агуркоў новага ўраджаю ўжо рэалізавана з пачатку года саўгасам «Ждановіцкі цяплічны камбінат» Мінскага раёна. Тутэйшыя агароднікі дабіваюцца нават у складаны час эканамічнага крызісу нядрэнных вынікаў. Напрыклад, у мінулым годзе саўгас атрымаў каля трох мільярдаў рублёў даходу толькі на вырошчванні агародніны ў закрытым грунце.**

Як расказаў у час сустрэчы 10 красавіка з кіраўніком дзяржавы Аляксандрам Лукашэнкам дырэктар саўгаса Міхаіл Дражын, калектыў цяплічнай гаспадаркі робіць усё магчымае па скарачэнню выдаткаў вытворчасці, ставіць рашучы заслон празмернаму расходу газу і электраэнергіі. Такі падыход да справы дае магчымасць агароднікам зніжаць цэны на сваю прадукцыю і паспяхова канкурыраваць на рынках збыту.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка змог пераканацца ў гэтым сам, пабываўшы ў цяпліцах. У іх на 6 гектарах закрытага грунту ўпершыню ў рэспубліцы вырошчваюцца памідоры па галандскай тэхналогіі. Да пачатку мая, як паведамілі кіраўніку дзяржавы спецыялісты, можна будзе зняць першы ў бягучым годзе ўраджай. Кожная расліна ў радку праз кропельніцу атрымлівае збалансаваны раствор, а яго паступленне пільна кантралюецца з дапамогай камп'ютэрнага інтэлекту. Тут жа размешчаны чмяліныя вуллі для апылення суквецціяў. Паводле слоў дырэктара гаспадаркі, затраты на ўкараненне новай тэхналогіі акупяцца праз год, а ўраджай памідораў з квадратнага метра зямлі павялічыцца ў 2 разы.

Сам у мінулым аграрнік, Аляксандр Лукашэнка поўнасцю пагадзіўся з думкай гаспадароў цяпліц аб неабходнасці асваення новых тэхналогій пры вырошчванні агародніны. Паводле слоў кіраўніка дзяржавы, ён з'яўляецца перакананым прыхільнікам аказання дапамогі тым калектывам, якія нават у цяперашні складаны час шукаюць і знаходзяць правільныя рашэнні ў справе павышэння эфектыўнасці вытворчасці. На жаль, «урад пакуль што паспяхова завальвае праграму падтрымкі айчынных таваравытворцаў». Прыкладна праз тыдзень Прэзідэнт мае намер запатрабаваць ад яго адпаведную справаздачу.

У інтэрв'ю па выніках наведвання саўгаса «Ждановіцкі цяплічны камбінат» Аляксандр Лукашэнка заявіў журналістам: «Мы абавязаны абараняць нашых таваравытворцаў, бо ў адваротным выпадку на прылаўках магазінаў рэспублікі з'явіцца чужая прадукцыя».

**Віктар САХАНКОЎ, БЕЛТА.**

## РАЗВІТАННЕ З А. МАЗАНІК

10 красавіка Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка прысутнічаў на грамадзянскай паніхідзе Героя Савецкага Саюза Алены Рыгораўны Мазанік і выказаў спачуванне сваякам нябожчыцы.

**БЕЛТА.**

ОРГАНИЗАЦИЯ
реализует оптом продукты
со склада в г. Минске
**Говядина тушеная**
ГОСТ 5284-84
525г. Ж.Б. - 14 200р
**Масло сливочное**
крестьянское жирн. 72,5% - 28 800р
**Сахар-песок**
свекольный - 6 100р
тел.(0172) 46-22-60,47-57-03

## «ЧЫМ БОЛЬШ МЫ БУДЗЕМ НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ, ТЫМ БОЛЬШ МЫ БУДЗЕМ ЕЎРАПЕЙЦАМІ»,

**— такія словы пісьменніка Фёдара Дастаеўскага прывёў Сямён Шарэцкі ў сваім выступленні ў Дзяржаўнай думе Расіі**

10 красавіка з першым афіцыйным візітам у Маскву прыбыла дэлегацыя беларускіх парламентарыяў на чале са Старшынёй Вярхоўнага Савета Сямёнам Шарэцкім. Пасля цырымоніі сустрэчы на Беларускім вакзале, аздобленым з гэтай нагоды беларускімі дзяржаўнымі сцягамі, беларускія дэпутаты ўсклалі вянок да магілы Невядомага салдата і накіраваліся ў Дзярждуму Расійскай Федэрацыі — на перагаворы з яе Старшынёй Генадзем Селязнёвым.

Генадзь Селязнёў адразу паведаміў гасцям, што дэпутаты Дзярждумы станоўча ўспрынялі падпісаны 2 красавіка расійска-беларускі дагавор, хаця некаторыя з іх былі супраць, аднак абсалютная большасць падтрымала гэты дагавор. Дзярждума Расіі, па словах Г. Селязнёва, пачала стварэнне рабочай групы па прапрацоўцы канцэпцыі сумеснай работы беларускіх і расійскіх парламентарыяў у Парламенцкім сходзе Супольніцтва. Дзеля гэтага Дзярждума ўвайшла ў кантакт з урадам Расіі. Генадзь Селязнёў зазначыў журналістам, што пакуль Дума не прымала падпісаны 2 красавіка дагавор на ратыфікацыю. Дума не прыняла ўдзелу ў падрыхтоўцы гэтага дагавора, а толькі была азнаёмлена з ім напярэдадні падпісання. «Мы з нецярпеннем чакаем, калі гэты дагавор паступіць на ратыфікацыю, ён безумоўна будзе абмеркаваны ва ўсіх фракцыях і дэпутацкіх групах і без прамаруджвання будзе ўключаны ў парадак дня пленарнага пасяджэння Думы», — зазначыў Г. Селязнёў. Ён таксама адзначыў, што ў выніку перагавораў з Сямёнам Шарэцкім дасягнута дамоўленасць аб супрацоўніцтве паміж нашымі парламентамі на базе Міжпарламенцкай асамблеі СНД.

Г. Селязнёў зазначыў, што ў Дзярждуме ўжо рыхтуюцца прапановы па супрацоўніцтву двух парламентаў, якія канцэнтруюцца ў Камітэце па СНД і сувязях з суайчыннікамі Дзярждумы.

Пасля перагавораў беларуская дэлегацыя накіравалася ў залу пасяджэнняў Дзярждумы РФ, і Страшыні ВС РБ С. Шарэцкаму было прадастаўлена слова для выступлення з думскай трыбуны.

Сямён Шарэцкі, у прыватнасці, зазначыў, што беларусаў і расіян звязвае даўняя дружба і што для нашых народаў характэрны не столькі рознасць, колькі адзінства. «Нашы народы будуюць новае грамадства, заснаванае на дэмакратычных прынцыпах і агульначалавечых каштоўнасцях. На гэтым шляху сустракаецца нямала цяжкасцей, але сумеснымі намаганнямі мы іх пераадолеем», — зазначыў Сямён Шарэцкі. Аднак ён падкрэсліў, што трэба заставацца рэалістамі, павярнуць гісторыю назад немагчыма, але нельга адмаўляцца і ад заваёў мінулага, нашай агульнай гісторыі. Сямён Шарэцкі станоўча ацаніў падпісаны 2 красавіка беларуска-расійскі дагавор аб стварэнні Супольніцтва. «Пагадненне, на мой погляд, не абмяжоўвае правы яго суб'ектаў — РБ і РФ. Яно становіцца гарантам гэтых правоў. І чым багацейшае і больш выразнае будзе нацыянальнае аблічча кожнага народа, тым больш моцным, перспектыўным і шматаблічным стане наша сумеснае жыццё», — падкрэсліў спікер ВС Беларусі. Ён прыгадаў таксама словы вялікага рускага пісьменніка, які мае беларускія карані, Фёдара Дастаеўскага: «Чым больш мы будзем нацыянальнымі, тым больш мы будзем еўрапейцамі, агульначалавекамі».

Гаворачы аб сумеснай працы парламентаў дзвюх краін, Сямён Шарэцкі зазначыў, што неабходна вызначыць этапы, тэрміны і глыбіню праводзімых эканамічных рэформаў і сацыяльных пераўтварэнняў у дзвюх дзяржавах. Парламенцкі сход, які будзе сфарміраваны з дэпутатаў Беларусі і РФ, возьме на сябе работу па прыняццю мадэльных заканадаўчых актаў, будзе ўносіць прапановы па развіццю прававой базы Супольніцтва.

Сямён Шарэцкі падкрэсліў, што Беларусь, як і Расія, актыўна будуе ў сябе дэмакратычную прававую дзяржаву. Таму, на думку Шарэцкага, супольніцтва павінна будзе грунтавацца на праве і законнасці, якія забяспечаць надзейнасць новага ўтварэння, яго міжнародны аўтарытэт.

«Упэўнены, што наша супольніцтва рэальнае і жыццяздольнае, яно адкрытае да далучэння да яго іншых дзяржаў, якія падзяляюць яго мэты і прынцыпы», — так закончыў Сямён Шарэцкі сваё выступленне ў Дзярждуме Расіі.

10 красавіка беларуская парламенцкая дэлегацыя таксама сустрэлася са Старшынёй Савета Федэрацыі Я. Строевым, міністрам замежных спраў Я. Прымаковым, наведала мемарыял на Паклоннай гары. На 11 красавіка намечана падпісанне пагадненняў паміж парламентамі дзвюх краін, сустрэча з прадстаўнікамі дэпутацкіх фракцый, візіт Сямёна Шарэцкага ў Крэмль для перагавораў з Прэзідэнтам РФ Б. Ельцыным, а таксама наведванне калгаса імя Горкага Ленінскага раёна Маскоўскай вобласці. Пасля абеду ў насычанай праграме візіту прадугледжаны сустрэчы са старшынёй урада РФ В. Чарнамырдзіным, мэрам Масквы Ю. Лужковым, прэс-канферэнцыя і сустрэча з прадстаўнікамі беларускай дыяспары.

Пасля сустрэчы Сямёна Шарэцкага ў Савеце Федэрацыі з кіраўніком вышэйшай палаты расійскага парламента Ягорам Строевым апошні зазначыў: «Мы — сяляне і не падзяляем палітыкі скачкоў, мы ведаем, што ўсё ў прыродзе робіцца паступова». Ягор Строеў адзначыў, што Савет Федэрацыі і Вярхоўны Савет Беларусі дакладна разумеюць, што нашым краінам не выжыць без інтэграцыі. Ён бачыць супрацоўніцтва паміж парламентамі дзвюх краін у саставе Міжпарламенцкай асамблеі краін СНД. Сямён Шарэцкі ў сваю чаргу станоўча ацаніў вынікі перагавораў па напаўненню дагавора ад 2 красавіка канкрэтным зместам.

Адзін з журналістаў запытаў Сямёна Шарэцкага: чаму, калі масквічы ў большасці падтрымліваюць ідэю Супольніцтва Расіі і Беларусі, то ў Мінску няма такой падтрымкі? На гэта Сямён Шарэцкі адказаў, што публікацыі, на якія яны спасылаюцца,— нашых «недругаў». На яго погляд, народ Беларусі адназначна выказаўся за далейшую інтэграцыю з Расіяй.

Яўген Прымакоў зазначыў, што пагадненне ад 2 красавіка, па яго меркаванню, гістарычнае. Яно з'яўляецца паваротным і прарыўным. Ён разлічвае, што гэты візіт будзе паспяховым у сэнсе абмеркавання працэсаў інтэграцыі, у тым ліку і на ўзроўні міністэрстваў замежных спраў абедзвюх краін.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

*Масква.*



## АФІЦЫЙНАЯ ХРОНІКА

**8-9 красавіка ў Рэспубліцы Аўстрыя пабывала дзяржаўная дэлегацыя Рэспублікі Беларусь на чале з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкам, якая ўдзельнічала ў рабоце міжнароднай канферэнцыі «Дзесяцігоддзе пасля Чарнобыля».**

Аляксандр Лукашэнка ў час гэтай сустрэчы яшчэ раз закрануў беларуска-расійскі дагавор, сказаўшы, што дзелавыя людзі будуць мець магчымасць, купіўшы прадпрыемства ў Беларусі, стварыўшы сумеснае прадпрыемства з беларускімі прадпрымальнікамі ці нават пабудаваўшы сваё прадпрыемства на нашай тэрыторыі — у спакойным і стабільным рэгіёне — ажыццяўляць сваю эканамічную дзейнасць на ўсёй тэрыторыі былога Савецкага Саюза. «Гэта натуральна, — сказаў ён, — паколькі мы з Расіяй не маем мытняў. Пры гэтым мы застаёмся суверэннай і незалежнай дзяржавай, суб'ектам міжнароднага права», — падкрэсліў ён.

**НА ЗДЫМКУ**: у час сустрэчы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі з федэральным канцлерам Рэспублікі Аўстрыя Ф. Враніцкім.

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БЕЛТА.**

## У Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь

Кабінет Міністраў у мэтах захавання гістарычна створанага тыпу традыцыйнай культуры і яе матэрыяльнай базы, забеспячэння далейшага развіцця культуры, адаптацыі яе да сучасных сацыяльна-эканамічных умоў прыняў пастанову аб дадатковых мерах па дзяржаўнай падтрымцы культуры.

У адпаведнасці з прынятай пастановай Міністэрству культуры, Міністэрству фінансаў сумесна з аблвыканкомамі і Мінскім гарвыканкомам даручана распрацаваць прыярытэтныя напрамкі дзяржаўнай культурнай палітыкі і механізм іх мэтавага фінансавання з улікам мясцовых культурных традыцый, інтарэсаў і запытаў розных катэгорый насельніцтва этнанацыянальных асаблівасцей і сацыяльна-эканамічных магчымасцей і да 1 кастрычніка 1996 г. унесці ва ўстаноўленым парадку на разгляд у Кабінет Міністраў.

Адначасова Міністэрству працы сумесна з міністэрствамі статыстыкі і аналізу, фінансаў, культуры неабходна да 1 ліпеня 1996 г. распрацаваць пералік пасад, якія адносяцца да кіруючых работнікаў і спецыялістаў устаноў культуры.

У сваю чаргу Міністэрству культуры неабходна да 1 верасня 1996 г. распрацаваць і зацвердзіць палажэнне аб атэстацыі кіруючых работнікаў і спецыялістаў устаноў культуры і на яго падставе ў 1996-1997 гг. сумесна з аблвыканкомамі і Мінскім гарвыканкомам правесці іх атэстацыю.

Міністэрству культуры таксама неабходна да 1 чэрвеня 1996 г. распрацаваць і прадставіць ва ўстаноўленым парадку ў Кабінет Міністраў прапановы аб парадку забеспячэння бібліятэк абавязковымі экземплярамі друкаваных выданняў.

У прынятай пастанове даручана Міністэрству культуры па ўзгадненню з міністэрствамі сувязі і інфарматыкі, фінансаў і іншымі зацікаўленымі цэнтральнымі органамі кіравання да 1 мая 1996 г. разгледзець пытанне аб ільготных малааб'ёмных кантэйнерных перавозках дакументаў і перасылкі дакументаў бібліятэкам па міжбібліятэчнаму абанементу для камплектавання бібліятэчных фондаў і пры неабходнасці ўнесці прапановы ва ўстаноўленым парадку ў Кабінет Міністраў. Міністэрству сувязі і інфарматыкі даручана забяспечыць ва ўстаноўленым парадку падключэнне аўтаматызаваных інфармацыйных сістэм бібліятэк да існуючых каналаў сувязі і інфармацыйных сетак.

З другога боку, Міністэрству фінансаў сумесна з Міністэрствам культуры штогод пры распрацоўцы праектаў дзяржаўнага бюджэту ў частцы расходаў на культуру неабходна прадугледжваць фінансавыя сродкі на камп'ютэрызацыю бібліятэк, музеяў, а таксама на стварэнне аўтаматызаванай бібліятэчна-інфармацыйнай сістэмы ў Беларускім універсітэце культуры. У заключэнне ў пастанове рэкамендавана аблвыканкомам і Мінскаму гарвыканкому прымаць адпаведныя рашэнні.

**Прэс-цэнтр Кабінета Міністраў — БЕЛТА.**

## Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

### АБ ДАЛЕЙШЫМ ПАГЛЫБЛЕННІ І РАЗВІЦЦІ ІНТЭГРАЦЫЙНЫХ ПРАЦЭСАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ З РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫЯЙ І ІНШЫМІ КРАІНАМІ СНД

Заслухаўшы і абмеркаваўшы даклад Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі «Аб далейшым паглыбленні і развіцці інтэграцыйных працэсаў Рэспублікі Беларусь з Расійскай Федэрацыяй і іншымі краінамі СНД», Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Адобрыць практычныя дзеянні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, накіраваныя на дасягненне ўсебаковага збліжэння Беларусі і Расіі.

2. Падтрымаць асноўныя прынцыпы развіцця і паглыблення інтэграцыі Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі, выкладзеныя ў дакладзе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Адзначыць, што інтэграцыя, якая ажыццяўляецца на добраахвотнай аснове, грунтуецца на прынцыпах дзяржаўнага суверэнітэту, захавання тэрытарыяльнай цэласнасці, раўнапраўя і ўзаемнай выгады бакоў, неўмяшання іх ва ўнутраныя справы адзін аднаго.

3. Дэлегацыя Вярхоўнага Савета Рэпублікі Беларусь у Міжпарламенцкай асамблеі Садружнасці Незалежных Дзяржаў паслядоўна праводзіць курс на ўмацаванне сувязей паміж краінамі і народамі ў галіне дзяржаўнага, гаспадарчага, навуковага і культурнага супрацоўніцтва.

4. Лічыць мэтазгодным для арганізацыі і каардынацыі міжпарламенцкага ўзаемадзеяння ўтварыць пастаянна дзеючы міжпарламенцкі орган па супрацоўніцтву Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і Федэральнага сходу Расійскай Федэрацыі.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**

29 сакавіка 1996 г., г. Мінск., № 149-XIII

# РАСІЙСКІЯ ПАЛІТЫКІ ЛІЧАЦЬ, ШТО ПЫТАННЕ АБ ДАЛУЧЭННІ БЕЛАРУСІ ДА РАСІІ ЎЖО ВЫРАШАНА

***6 сакавіка ў Дзярждуме Расіі адбыўся «круглы стол» на тэму «Беларусь — Расія: стратэгія партнёрства».***

**Мерапрыемства было арганізавана Нацыянальным цэнтрам стратэгічных ініцыятыў «Усход — Захад», з беларускага боку ў ім бралі ўдзел прэзідэнт Цэнтра Анатоль Майсеня, дэпутаты Юрый Кулакоўскі, Анатоль Лябедзька, Уладзімір Нісцюк, Вольга Абрамава, вучоныя, журналісты. Расійскі бок прадстаўлялі ўдзельнікі ўсіх буйных фракцый Дзярждумы — камуністычнай, аграрнай, ЛДПР, «Яблоко», эксперты-навукоўцы, банкіры.**

Для расійскіх удзельнікаў «круглага стала» пытанне пра палітычнае далучэнне Беларусі да Расіі было вырашана, абмяркоўваліся толькі магчымыя механізмы і ўмовы далучэння. Віктар Кувалдзін, эксперт Гарбачоў-фонду, заўважыў, што пры аб'яднанні Беларусі і Расіі не падыходзіць схема еўрапейскай інтэграцыі, паколькі сутыкаюцца неўраўнаважаныя палітычныя канструкцыі, інакш кажучы, малапрыстасаваныя для раўнапраўнай інтэграцыі суб'екты. Але «пры пэўных эканамічных выдатках для Расіі відавочныя і стратэгічныя плюсы», і таму «інтэграцыя павінна ісці на базе агульнапрызнанай сістэмы каштоўнасцей. Гэта — грамадзянскія свабоды, плюралізм уласнасці, сацыяльна арыентаваная рыначная эканоміка, адкрытае грамадства. У той частцы, у якой Беларусь захоча захаваць атрыбуты суверэнітэту, трэба даць ёй магчымасць рэалізаваць іх».

Прэзідэнт НЦСІ «Усход—Захад», заўважыўшы, што «мы па недарэчнасці апынуліся па розныя бакі граніцы», сцвярджаў: «Толькі жыццё дакажа жыццяздольнасць расійска-беларускага дагавора, які падпісаны 2 красавіка». На думку Майсені, пры любым раскладзе 90 працэнтаў беларусаў падтрымліваюць ідэю інтэграцыі, і антыдагаворныя мітынгі ў Мінску былі справакаваны келейнасцю яго падрыхтоўкі.

Запрошаны ў якасці дакладчыка дарадца прэзідэнта Украіны Уладзімір Малінковіч, былы эсэсэраўскі палітвязень, выказаў крыўду Украіны на тое, што яна была адхілена ад абмеркавання і падпісання дагавора. «У нас на Украіне прыхільнікі інтэграцыі выступаюць пад чырвонымі сцягамі»,— сказаў Малінковіч. Паводле яго даследаванняў, большасць насельніцтва Украіны, асабліва ўсходняй, за інтэграцыю. А паколькі палітыка цяперашняй кіеўскай улады, на думку Малінковіча, накіравана на раз'яднанне, то «інтэграцыйныя сілы ўсё роўна пакажуць сябе». Ён заўважыў, што ў расійска-беларускай інтэграцыі ёсць два адмоўныя бакі: па-першае, «працэс ініцыіраваны Прэзідэнтам А. Лукашэнкам, а ён — не дэмакрат», а па-другое, пасля расійскіх выбараў невядома, якая ўлада будзе ў самой Расіі.

Яўген Кажокін, дырэктар расійскага інстытута сацыяльных даследаванняў, адзначыў, што падпісаны 2 красавіка дагавор — рамачны, але людзі ўжо сёння чакаюць ад яго нейкіх канкрэтных вынікаў. І таму «калі не будуць прыняты меры, зразумелыя простаму чалавеку, гадзіннік, які ўжо пачаў цікаць, будзе працаваць супраць нас». «Далучэнне Беларусі — унутраны выйгрыш для нацыі. Гэта адно з нямногіх пытанняў, па якому ў расійскім грамадстве існуе поўная аднадушнасць», — зазначыў Кажокін.

Дэпутат Дзярждумы ад кампартыі Віктар Шавялуха, былы сакратар ЦК КПБ, упэўнены, што Беларусь і Расія павінны быць адзінай дзяржавай, але на новых прынцыпах. Шавялуха абураўся тым, што Гарбачоў прывёў да разарэння цэлую галіну — сельскую гаспадарку, што за некалькі дзён пасля выступлення А. Лукашэнкі 15 сакавіка ўзровень інтэграцыйнасці ў рыхтуемым расійска-беларускім дагаворы апусціўся значна ніжэй, абураўся і тым, што ў мінскім аэрапорце ў яго праверылі пашпарт. На заканчэнне Шавялуха прэзентаваў удзельнікам «круглага стала» свой артыкул пра П. Машэрава і запэўніў: «Мы вас любім».

Мала чым адрозніваліся ад выступлення Шавялухі і выказванні іншых расійскіх дэпутатаў. Член фракцыі ЛДПР Яўген Міхайлаў, які таксама бачыць Беларусь і Расію адзінай дзяржавай, уяўляе нашы агульныя інтарэсы ў абароне таджыкскай граніцы і праваслаўных аднаверцаў у Босніі. «Хопіць Расіі адной процістаяць ісламу!» — сцвярджаў ён.

Тон выступленняў некаторых беларускіх удзельнікаў «круглага стала», здаецца, прыйшоўся не даспадобы расійскаму боку. У прыватнасці, дэпутат Анатоль Лябедзька заявіў, што падчас дэманстрацый пратэсту ў Мінску большасць складалі маладыя людзі, а гэта значыць, што для новага дзеяздольнага пакалення незалежнасць краіны з'яўляецца каштоўнасцю. На думку А. Лябедзькі, Беларусь павінна захаваць суверэнітэт.

Намеснік дырэктара Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў Юрый Дракахруст пазнаёміў прысутных з вынікамі сацыялагічных даследаванняў, праведзеных інстытутам. Так, амаль сто працэнтаў беларусаў не жадаюць удзельнічаць у чачэнскай вайне, толькі 13 працэнтаў дапусцілі б да ўдзелу ў прыватызацыі беларускіх прадпрыемстваў грамадзян краін СНД. Беларускія кіраўнікі, якія не супраць карыстацца перавагамі мытнага саюза, у аднабаковым парадку зніжаюць мытныя пошліны на аўтамабілі, чым падрываюць расійскі аўтамабільны рынак... У наяўнасці, лічыць Дракахруст, нейкая выбарачная інтэграцыя — людзі хочуць узяць ад яе ўсё лепшае, а горшае пакінуць расіянам... Як вынікае з даследаванняў НІСЭПД, грамадзяне Беларусі, схільныя да інтэграцыі, падзяляюць сацыялістычныя погляды, а да незалежнасці — рыначныя.

Такім чынам, высветлілася, што інтэграцыя — працэс супярэчлівы і складаны, які патрабуе шмат узгадненняў і «прыцірак». І перш за ўсё — часу, каб усё гэта добра асэнсаваць, ацаніць плюсы і мінусы і зрабіць асэнсаваныя вывады.

**Таццяна КАЛІНОЎСКАЯ,**
Масква — Мінск.

# «ВЯЛІКАЯ ВАДА»: ПЕРШАЯ «ХВАЛЯ»

**Тое, да чаго так доўга рыхтаваліся ў краіне і аб чым шмат гаварылі апошнім часам, нарэшце здарылася: у Беларусі пачалася чарговая веснавая паводка. Мінулыя сонечныя выхадныя дні не пакінулі наконт гэтага ніякіх сумненняў.**

Так, калі на пачатку мінулага тыдня назіралася толькі павольнае таянне снегавога покрыва, разбурэнне лёду і невялікі пад'ём узроўню вады на рэках краіны, то з імклівым пацяпленнем веснавыя працэсы атрымалі своеасаблівы «штуршок»: з канца мінулага тыдня пачаўся крыгалом на рэках Днепр, Сож, асобных участках Бярэзіны, Прыпяці (у раёне Мазыра), Нёмана і іх прытокаў. Паводле апошніх звестак (па стану на 9 красавіка), на Заходняй Дзвіне, яе прытоках, а таксама на Прыпяці (на ўчастку Пінск — Петрыкаў) яшчэ захаваўся ледастаў, аднак лёд пацямнеў, у асобных месцах назіраецца яго перамяшчэнне.

Як паведамілі ў Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад наступстваў катастрофы на ЧАЭС, зараз павелічэнне ўзроўню вады назіраецца на ўсіх рэках краіны. На рэках Сож (участак Крычаў — Слаўгарад), Бесядзь (у с. Свяцілавічы), Гарынь (у г. п. Рэчыца, Убарць, Пціч, Случ, Лясная і Нараў вада знаходзіцца пакуль у пойме.

На правабярэжных прытоках Прыпяці, што працякаюць па тэрыторыі Украіны, таксама пакрысе адбываецца фарміраванне максімальных узроўняў веснавой паводкі. Сутачны рост тут дасягаў 100—190 см, аднак у апошнія дні яго інтэнсіўнасць зменшылася і склала 10—35 см. Як мяркуюць спецыялісты, у бліжэйшыя 2—3 дні на гэтых рэках будуць зарэгістраваны максімальныя ўзроўні паводкі, пасля чаго пачнецца яе спад. Але за кошт перамяшчэння паводкі з верхніх участкаў у ніжнім цячэнні гэтых рэк на тэрыторыі Беларусі (Гарынь, Убарць, Стыр, а таксама Прыпяць) інтэнсіўнасць росту ўзроўняў вады на бягучым тыдні павялічыцца, а на завяршэнне дасягне максімальных узроўняў, якія па сваёй вышыні, як чакаецца, будуць крыху большыя за ўказаныя ў доўгатэрміновых прагнозах. Пры гэтым будуць падтоплены сельскагаспадарчыя ўгоддзі і населеныя пункты ў Столінскім, Лунінецкім, Жыткавіцкім і Лельчыцкім раёнах.

По прагнозах, да канца бягучага тыдня крыгалом пачнецца на ўсіх рэках.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*ЖЫЦЦЁВЫЯ ДРАМЫ*

# «Няхай на сумленні тых, хто мяне падвёў, застанецца цень маёй смерці...»

Раніцай адзінаццатага снежня леташняга года я прыйшоў у Гродзенскі аблвыканком па інфармацыю аб тым, хто заняў дэпутацкія «крэслы» па выніках учарашняга волевыяўлення беларускага народа. Аднак, на жаль, быў вымушаны паведаміць у рэдакцыю не толькі аб пераможцах і прайграўшых у барацьбе за галасы выбаршчыкаў, але і пра трагедыю — гібель чалавека. Смерць па сваіх абставінах жудасную і неверагодную. Смерць, у якую спачатку адмаўляліся верыць калі не ўсе, дык пераважная большасць з тых, хто ведаў нябожчыка доўгія гады, яшчэ напярэдадні бачыў яго. Але як не паверыць? Непадуладны эмоцыям пратакол засведчыў, што каля трох гадзін ночы адзінаццатага снежня 1995 года на казырку даху на ўзроўні трэцяга паверха будынка Гродзенскага аблвыканкома быў знойдзены труп грамадзяніна У. М. Белазёрцава, 1943 года нараджэння, начальніка абласнога ўпраўлення аховы здароўя. Акно ў канцы калідора на сёмым паверсе (тут размяшчаўся службовы кабінет Уладзіміра Міхайлавіча) было адчынена...

Ужо на наступны дзень пракурор вобласці паведаміў чытачам «Гродзенскай праўды», што, паводле папярэдніх даных, Уладзімір Белазёрцаў скончыў жыццё самагубствам. Услед за гэтым ужо не толькі па аблвыканкому, а літаральна па ўсім горадзе папаўзлі самыя розныя чуткі. Няўжо следства так хутка выканала ўсе патрэбныя экспертызы і цалкам пераканалася, што аб забойстве не можа быць і размовы? Ці не паспяшаліся з высновай і каму патрэбна такая спешка? Чаму чалавек, а тым больш медык «шукаў казырок» (маўляў, мог жа і не загінуць, застацца калекам), а не звёў рахункі з жыццём іншым, больш «надзейным» спосабам? Чаму месцам для самагубства стаў менавіта аблвыканкомаўскі будынак? І ці выпадкова трагедыя здарылася якраз у дзень выбараў, можа, тут ёсць нейкая «зачэпка»? Хадзілі і такія чуткі, што, маўляў, Белазёрцава прымусіла развітацца з жыццём мафія, а перадсмяротныя запіскі ён пісаў пад прымусам, пад дулам пісталета, каб адвесці бяду ад сям'і. Але ў такім разе каму ж мог перайсці дарогу заслужаны работнік аховы здароўя, кавалер ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга, вядомы на Гродзеншчыне чалавек?

Пасля таго, як пракуратура вынесла свой вердыкт па гэтай крымінальнай справе («Белазёрцаў У.М. скончыў жыццё самагубствам. Пры гэтым устаноўлена, што жорсткага абыходжання з ім ці сістэматычнай знявагі яго асабістай годнасці ніхто не дапускаў;.. састаў злачынства — давядзенне да самазабойства — адсутнічае»), мы з калегам патэлефанавалі Ірыне Міхайлаўне, жонцы нябожчыка. Яна запрасіла нас да сябе дамоў. Кватэра ў Белазёрцавых даволі сціплая, звычайная. Прынамсі, зала, у якой мы гутарылі, па сваіх памерах уступае многім іншым, дзе мне даводзілася бываць раней. На століку ля акна — фотапартрэт Уладзіміра Міхайлавіча з чорнай стужкай. Побач — памінальная чарка і яшчэ адна, зусім маленькая фотакартка. На ёй бацька У. Белазёрцава. Ён цяжка хварэў і некалькі дзён назад Ірына Міхайлаўна праводзіла яго ў апошні шлях з гэтай зямлі. І сапраўды, бяда не ходзіць адна. Але засталіся ў Ірыны Міхайлаўны дзеці, унукі. Засталіся ўспаміны аб мінулым, за якое ёй не сорамна. Ні перад людзьмі, ні перад Богам.

— Мы пражылі разам 33 гады. Ён вельмі добра вучыўся ў мединстытуце, быў ленінскім стыпендыятам. Усяго дабіваўся сваёй працай. Яшчэ падчас вучобы працаваў у бальніцы, каб зарабіць грошы на сям'ю. Пасля заканчэння інстытута быў урачом-анестэзіёлагам у дзіцячай бальніцы, хворых дзяцей літаральна насіў на руках. Затым перайшоў на адміністрацыйную работу — намеснік галоўнага ўрача 1-й гродзенскай бальніцы, галоўны ўрач, пры гэтым працягваў дзяжурыць анестэзіёлагам. Калегі яго паважалі. Можна прыгадаць, што калі Уладзіміру Міхайлавічу прапанавалі пасаду ў аддзеле аховы здароўя, медыцынская грамадскасць напісала зварот (392 подпісы), каб яго не забіралі з першай гарбальніцы. Па праўдзе, ён спачатку і сам не хацеў пераходзіць на адміністрацыйную работу, паколькі чыста ўрачэбная была яму бліжэй. Але і адміністратарам муж быў талковым. Ды ён заўсёды, на любой пасадзе надзвычай добрасумленна ставіўся да працы, можна нават сказаць, што ставіў яе вышэй сям'і, не шкадаваў для работы ні сіл, ні часу...

Медыцына Гродзеншчыны каціравалася ў рэспубліцы даволі высока — неаднаразова прызнавалася лепшай, у тым ліку і па выніках мінулага года. Наўрад ці хто скажа, што ў гэтым няма заслугі ўрача і чыноўніка Белазёрцава.

Летась Уладзімір Міхайлавіч працаваў як ніколі многа і напружана. На яго, па словах Ірыны Міхайлаўны, наваліліся проста каласальныя нагрузкі. Прычым, не толькі чыста арганізацыйныя, фізічныя (у Гродне, у прыватнасці, праходзілі з'езды імунолагаў, хірургаў), але і маральна-псіхалагічныя: адбылося надзвычайнае здарэнне са смяротным зыходам у адной раённай бальніцы, канфліктная сітуацыя склалася ў калектыве гродзенскага раддома. Скаргі, разборы...

А тут яшчэ гэты монахлорамін... Мінулай восенню некаторыя падначаленыя У. Белазёрцава (іх прозвішчы пракуратура папрасіла не называць, пакуль не завершыцца расследаванне) «правярнулі» буйную здзелку з фірмай «Белфармсервіс». Парадаксальна, але факт: на той момант у Гродне на аптэчных складах мелася звыш двух тон гэтага дэзінфіцыруючага сродку, прычым значна таннейшага, чым у камерсантаў. Аднак абласны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі аддае перавагу апошнім. За 970 мільёнаў рублёў з «гакам», атрыманых ад упраўлення аховы здароўя, у «Белфармсервісе» купляюць звыш 12,5 тоны «дэфіцыту». Гэта азначае, што сумеснымі намаганнямі дзяржаўных і прыватных прадпрымальнікаў наш і без таго жабрацкі бюджэт «пракінулі» на 182,2 мільёна рублёў.

Чацвёртага снежня Уладзімір Міхайлавіч адзначаў у сямейным коле свой дзень нараджэння, а назаўтра паехаў у сталіцу, на міністэрскую калегію. На ёй прагучалі высновы рэвізораў адносна вышэйпамянёнай аферы, гэтыя матэрыялы было вырашана перадаць праваахоўным органам. Як раскажа потым следчаму Юрый Касьяновіч, вадзіцель службовай машыны У. Белазёрцава на працягу многіх гадоў, «шэф» быў «чалавекам спакойным, ураўнаважаным». Аднак на працягу апошняга месяца і асабліва пасля калегіі ён «вельмі моцна аб нечым перажываў». Па дарозе з Мінска Уладзімір Міхайлавіч сказаў, што «яго, магчыма, звольняць з работы, яго нехта падвёў».

Ірына Міхайлаўна, вядома ж, бачыла, як блізка да сэрца прымае муж непрыемнасці па службе, раіла яму ўзяць водпуск, супакойвала яго. Маўляў, нічога страшней смерці не бывае, ды і не ты ж заключаў гэты злашчасны дагавор, а калі нават і пойдзеш з пасады — невялікая бяда, менш будзеш у раз'ездах, мне спакайней будзе. Да самага жудаснага і ўжо непапраўнага заставаліся лічаныя суткі...

На панядзелак, адзінаццатага снежня, Уладзімір Міхайлавіч прызначыў пару рабочых сустрэч, а напярэдадні, у дзень выбараў, ён, як начальнік упраўлення, павінен быў дзяжурыць у аблвыканкоме. Прыкладна ў 7.30 ён, пацалаваўшы жонку, зачыніў за сабой дзверы кватэры. Па дарозе на працу зайшоў на выбарчы ўчастак, прагаласаваў. Дзесьці ў 11 гадзін патэлефанаваў дамоў. Як звычайна, успамінае Ірына Міхайлаўна, перакінуліся словам-другім. Гадзін у 14 (пад перадсмяротнымі запіскамі значыцца 13.15 і 13.50) — зноў званок: «Ці ўсё ў парадку?» Уладзімір Міхайлавіч быў спакойны, цвярозы («Па голасе я абавязкова адчула б нешта не тое», — сцвярджае Ірына Міхайлаўна), абяцаў прыехаць дамоў, калі разбярэцца са справамі. Апошні раз У. Белазёрцаў патэлефанаваў прыкладна ў 19.30, размаўляў з унукам. Больш яго голасу ніхто з блізкіх ужо не чуў. Тэлефон у службовым кабінеце Уладзіміра Міхайлавіча, куды яны з 20 да 23 гадзін неаднойчы спрабавалі дазваніцца (смерць, паводле заключэння судмедэкспертызы, наступіла каля 22 гадзін) не адказваў. Першая думка: тэрмінова выехаў па справах, звязаных з выбарамі. Але чаму ж не патэлефанаваў, не папярэдзіў, як заўсёды, што затрымліваецца?

Ужо каля двух гадзін ночы, не дачакаўшыся мужа, Ірына Міхайлаўна набрала нумар тэлефона сваёй знаёмай А. Сухаравай, старшыні абкома прафсаюза медработнікаў, якая жыве якраз насупраць аблвыканкомаўскага будынка: «Валодзі няма, у яго з сэрцам дрэнна, можа, што здарылася...» Алена Іосіфаўна выглянула ў акно спальні: у службовым кабінеце Уладзіміра Міхайлавіча гарэла святло. Разам з дзяжурным міліцыянерам жанчына паднялася на сёмы паверх. Прыёмная і кабінет начальніка ўпраўлення аховы здароўя былі адчынены...

— Першае ўражанне, якое ў мяне ўзнікла, — расказвае А. Сухарава, — быццам у кабінеце адбылася бойка, бо на падлозе ляжалі дзверцы, адарваныя ад бара блок-сценкі («Не ў яго характары ўчыняць дэбош», — гаворыць Ірына Міхайлаўна). Куртка і шапка Белазёрцава былі на месцы. Але дзе ж ён сам? З калідора пацягнула скразняком. Алена Іосіфаўна разам з міліцыянерам падышлі да акна ў канцы калідора, паглядзелі ўніз. На казырку ляжаў трохі зацярушаны снегам чалавек, на спіне, тварам уверх...

Паводле заключэння судова-медыцынскай экспертызы, «смерць Белазёрцава У.М. наступіла пры падзенні з вышыні на ногі, слядоў барацьбы і самаабароны не выяўлена... наркатычных сродкаў, ядаў ён незадоўга да смерці не ўжываў». У службовым кабінеце Уладзіміра Міхайлавіча, акрамя вышэйпамянёных дзверцаў (пракуратура лічыць, што Белазёрцаў неяк сам на іх наваліўся і яны абарваліся), прыцягвалі ўвагу разбітая бутэлька гарэлкі, дзве шклянкі. Яшчэ — пакет з салам. («Хто прынёс гэта сала?» — не можа зразумець Ірына Міхайлаўна. — Ды ён ніколі не браў на работу ніякага сала, ніякіх бутэрбродаў»). На пісьмовым стале ляжалі матэрыялы праверкі ўпраўлення кантралюючымі органамі і дзве перадсмяротныя запіскі. Судова-почырказнаўчая экспертыза засведчыла, што яны напісаны рукой У. Белазёрцава і ім жа падпісаны.

У запісцы, адрасаванай кіраўніцтву аблвыканкома, гаворыцца: «Я разумею, што ўсіх вас падвёў, але жыць у ганьбе не магу. Я зрабіў памылку, даўшы магчымасць непрыстойным людзям прысвоіць дзяржаўныя грошы. Не думаў, што яны, выкарыстоўваючы маю неразумную даверлівасць і добрыя намеры, змогуць так мяне падвесці. Але вінаваты, як кіраўнік, перш за ўсё я і за гэта павінен расплачвацца. Унутры ўсё стала пустым і змучаным перажываннямі і душэўнымі пакутамі... Стараўся працаваць добра, але не змог правільна разабрацца ў існуючых адносінах нашага часу... Прашу вас, ведаючы вашу прыстойнасць і добрае сэрца, падтрымаць маіх родных... Дзякуй усім галоўным урачам, маім калегам па ўпраўленню, усім, хто са мной працаваў, за добрыя адносіны і разуменне. Беражыце адзін аднаго...»

Збоку і ўверсе аркуша паперы — дзве дапіскі, зробленыя, як лічыць пракуратура, крыху пазней. Першая: «За тое, што выпіў, прабачце, так трохі лягчэй». І другая: «Няхай на сумленні тых, хто мяне падвёў, застанецца цень маёй смерці».

З перадсмяротнай запіскі, адрасаванай жонцы, дзецям, унукам, усім родным дазволю сабе абнародаваць толькі наступнае: «Па сваёй натуры не змагу перанесці ганьбы разбораў і службовай знявагі». Нехта, магчыма, здзівіцца: «І гэта за 180 дзяржаўных мільёнаў, у разбазарванні якіх непасрэдна вінаваты іншыя?!» Гэта сёння, калі крадуць непараўнальна больш, прычым мэтанакіравана, без усякіх памылак і пакут сумлення, не саромеючыся ні бацькоў, ні дзяцей, ні знаёмых, выкручваючыся, як вужы, калі зловяць на «гарачым»?

Урач і кіраўнік Белазёрцаў гэтага рабіць не ўмеў. Хаця Ірына Міхайлаўна і сёння не верыць у самагубства: «Ён не мог дазволіць сабе пайсці, пакінуўшы нас...»

...Калі па Уладзіміру Міхайлавічу спраўлялі сорак дзён, яго магілу ўсыпалі кветкамі. Затым сюды нехта наведаўся. Кветкі з вянкоў былі вырваны, але не ўкрадзены, а растаптаны. Тут жа, ля магілы. Нядаўна ссеклі драўляны крыж...

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## ГОРКАЯ НОША БЕСПРАЦОЎЯ

**Сумную славу самага «беспрацоўнага» раёна на Віцебшчыне маюць апошнім часам Паставы.**

Выклікана гэта ліквідацыяй двух буйных ваенных гарадкоў, а таксама істотнымі скарачэннямі працоўных месцаў, што перыядычна адбываюцца ў раёне. Таму і сёння ў мясцовым цэнтры занятасці насельніцтва зарэгістравана каля 1500 беспрацоўных, з якіх атрымліваюць матэрыяльную дапамогу 833 чалавекі. Наогул жа фіксаваны ўзровень беспрацоўя ў райцэнтры складае каля 10 працэнтаў. Лічба гэта ў рэальнасці куды большая, калі ўлічыць скрытае беспрацоўе і цяжкае фінансавае становішча мясцовых прамысловых прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў. Да таго ж у раёне зараз назіраецца пэўны лішак працаўнікоў традыцыйных прафесій. Так, рынак працы перанасычаны швачкамі (85 чалавек), поварамі (48), вадзіцелямі (130), прадаўцамі (70), выхавацелямі дзіцячых садкоў (34), настаўнікамі (30), медыцынскімі сёстрамі (35 чалавек). Наогул жа 80 працэнтаў ад агульнай колькасці страціўшых працу складаюць жанчыны. А 60 працэнтаў — спецыялісты з вышэйшай і сярэднеспецыяльнай адукацыяй. Паказальна, што сярод тых, хто звярнуўся па дапамогу ў працаўладкаванні, кожны трэці — малады чалавек. Так, не знайшлі прымянення сваім сілам 10 працэнтаў мінулагодніх выпускнікоў школ і мясцовага ПТВ (трактарысты-машыністы і аператары машыннага даення кароў).

Самае сумнае, што ніякага выйсця з гэтага становішча не бачна, бо ў многіх калектывах з вялікай цяжкасцю ўдаецца стрымаць скарачэнне працоўных месцаў...

**Уладзімір ШЫК.**

## ВЁСКА ДАЕ ПРАЦУ... АСУДЖАНЫМ

**У невялікім Чачэрску зараз налічваецца 284 беспрацоўныя. З іх 190 — ва ўзросце ад 18 да 40 гадоў. Без пастаяннага занятку ў асноўным застаюцца спецыялісты так званых масавых прафесій, колькасць якіх, нягледзячы на перанасычанасць, працягвае павялічваць мясцовае ПТВ-118.**

Гэта трактарысты, вадзіцелі, газаэлектразваршчыкі, лабаранты па ўліку і аналізу малака, прадаўцы і повары. Тым часам у тутэйшых калгасах і саўгасах няма каму даіць кароў, вадзіць машыны, выконваць іншую працу. Што рабіць, моладзь не імкнецца ў вёску. Як вядома, там трэба добра працаваць, да таго ж у нялёгкіх умовах, атрымліваючы мізэрную зарплату, якая да апошняга часу выдавалася не заўсёды рэгулярна. Затое ў сакратары-машыністкі, міліцыянеры, па словах дырэктара раённага цэнтра занятасці Любові Зотавай, жадаючых пайсці хоць адбаўляй.

У гэтых умовах раённая выканаўчая ўлада вымушана была прыцягнуць да працы ў вёсках пэўную катэгорыю... асуджаных. За кошт таннай рабочай сілы ўжо выходзяць са становішча ў некаторых гаспадарках, дзе працуюць насельнікі філіяла адной са спецкамендатур, што знаходзіцца ў вёсцы Глыбочыца. Ідэю вырашана развіваць. У прыватнасці, на тэрыторыі раёна плануецца адкрыць спецкамендатуру, у якой будуць утрымлівацца прыкладна 250 асуджаных. Вырашэнне гэтага пытання, аднак, не знаходзіць разумення з боку мясцовага насельніцтва. Аб тым, якое знайсці выйсце з сітуацыі, зараз і думае мясцовая ўлада.

**Алег ШЫРОКІ.**

## АД БЕСПРАЦОЎЯ НІХТО НЕ ЗАСТРАХАВАНЫ

**Штодзённа каля дзвярэй Пухавіцкага раённага цэнтра занятасці насельніцтва выстройваюцца вялікія чэргі. Па раёну зараз зарэгістравана 2280 беспрацоўных. Як адзначыла в.а. дырэктара цэнтра Людміла Лемеш, узровень беспрацоўя ў Пухавіцкім раёне склаў 5,8 працэнта. Гэта адзін з самых высокіх паказчыкаў па Мінскай вобласці.**

Асноўную частку беспрацоўных (75 працэнтаў) складаюць жанчыны. Як гэта ні сумна, але менавіта ад іх імкнуцца пазбавіцца ў першую чаргу. Большасць беспрацоўных мае самы працаздольны ўзрост — 30—34 гады.

Асабліва цяжкае становішча з працаўладкаваннем назіраецца ў пасёлках Новая Зара, Свіслач, Дружны. 46 працэнтаў ад усіх беспрацоўных — менавіта з гэтых населеных пунктаў. У Новай Зары (ваенным гарадку) значную частку непрацуючых складаюць жонкі ваеннаслужачых, а апошнім часам — і самі вайскоўцы. На ўліку ў цэнтры занятасці стаіць 48 чалавек (з іх 45 жанчын), звольненых з Узброеных Сіл без права на пенсію, а таксама 44 чалавекі, звольненыя ў сувязі з завяршэннем тэрміну службы.

Жыхары ж некалі перспектыўных пасёлкаў Дружны і Свіслач, дзе планавалі будаваць АЭС, сутыкнуліся з праблемай беспрацоўя адразу пасля чарнобыльскай аварыі. Новую атамную станцыю тут узводзіць не сталі, а людзі, якія з'ехаліся на вялікую будоўлю з усяго былога Саюза, аказаліся ў незайздросным становішчы. Магчыма, пасля ўвядзення ў дзеянне бальнічнага комплексу, лазнева-пральнага камбіната, Рудзенскай базы звадкаванага газу сітуацыя палепшыцца — з'явяцца новыя рабочыя месцы.

У сувязі з ускладненнем праблемы працаўладкавання незанятага насельніцтва служба занятасці аказвае беспрацоўным сацыяльную падтрымку. Летась з Фонду садзейнічання занятасці на выплату дапамог па беспрацоўю, стыпендый было выдаткавана больш як 1 млрд. руб. Дапамогі, якія атрымліваюць тыя, хто трапіў пад скарачэнне штатаў, складаюць ад 1 да 2 мінімальных зарплат (ад 100 да 200 тыс. руб. на працягу 6 месяцаў). У вайскоўцаў дапамогі большыя — ад 500 да 700 тыс. руб. штомесяц на працягу паўгода. Пры наяўнасці дзяцей да 14 гадоў дабаўляецца яшчэ 10 працэнтаў ад назначанай дапамогі на кожнае дзіця.

Калі чалавек ніколі не працаваў, а да такіх належаць выпускнікі сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў, то дапамога складае 70 або 85 працэнтаў ад мінімальнай заработнай платы. Такія выплаты атрымліваюць і асобы, якія прыехалі да нас з блізкага замежжа і нідзе не працуюць. Дарэчы, некаторых беспрацоўных час ад часу можна сустрэць сярод тых, хто гандлюе на кірмашы. Цяжка пражыць на гэтыя мізэрныя дапамогі, таму людзі і шукаюць розныя шляхі паляпшэння свайго фінансавага становішча, бо працаўладкавацца вельмі і вельмі цяжка. На кожнае вызваленае месца на сённяшні дзень прэтэндуюць 20 беспрацоўных. Летась цэнтрам занятасці было накіравана на прафесіянальную падрыхтоўку і перападрыхтоўку 125 чалавек. Гэта адзін са шляхоў вырашэння праблемы. Летам і восенню напружанне крыху спадае, бо калгасы і саўгасы запрашаюць на сезонныя работы, дзе можна нядрэнна падзарабіць.

**Аліна ГРЫШКЕВІЧ.**

# БЕСПРАЦОЎНЫ — ШТО Ў ГЭТЫМ СЛОВЕ...

**Памятаеце, як колькі гадоў таму нам у школе, пры выпадку ў жыцці ды і проста амаль кожны дзень па ТБ, радыё, у газетах даводзілі розніцу паміж капіталістычным і сацыялістычным ладам жыцця? Бадай, адным з самых моцных аргументаў на карысць «нашага курса развіцця» было нязменнае пытанне беспрацоўя ў замежных краінах. Каментатары захлёбваючыся распавядалі аб іх цяжкім жыцці, не забываючыся падкрэсліць, што ў нас такога наогул быць не можа...**

**Здаецца, не так шмат часу прайшло, цяжка сказаць, які лад жыцця мы будуем зараз у Беларусі, але «прыгажосць» гэтай з'явы народ паспеў зведаць ужо спаўна. Спачатку пакрысе, а потым усё больш імклівымі тэмпамі прайшлася па айчынных прадпрыемствах хваля скарачэння штатаў, і тысячы працаўнікоў апынуліся на вуліцы. Напэўна, не менш і тых, хто толькі лічыцца працуючым, але вымушаны «бавіць час» у адпачынку за свой кошт з-за прастою прадпрыемства. Будзённымі сталі словы: «біржа працы», «кірмаш вакансій»... Ды і тым, хто працуе, асабліва не пазайздросціш: знайсці добра аплачваемую працу вельмі складана, таму людзі ўсімі праўдамі і няпраўдамі трымаюцца за тое, што ёсць. Аб тым жа, што «ёсць», мы і пагаворым сёння...**




Калаж Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.

## ЯК ЖЫЦЦЁ? ПЕРАВАЖНА ЗА РЫСАЙ БЕДНАСЦІ

**Міністэрствам статыстыкі і аналізу вызначаны памер сярэднямесячнай заработнай платы рабочых, служачых і калгаснікаў.**

За студзень-люты яна склала 983 тысячы рублёў. У той жа час Міністэрствам працы ўстаноўлены мінімальны спажывецкі бюджэт (МСБ) у памеры 924 тысячы рублёў на аднаго члена сям'і з чатырох чалавек, адкуль вынікае, што сукупны даход сям'і павінен складаць 3 мільёна 696 тысяч рублёў. Сёння ж пры ўмове атрымання сярэднестатыстычнай зарплаты двума членамі сям'і (дзеці не ўлічваюцца) сукупны даход складае 1 мільён 966 тысяч рублёў. Гэтых грошай не хапае нават на мінімальную спажывецкую карзінку для малазабяспечаных (яна складае 60 працэнтаў ад МСБ) — 527 тысяч 34 рублі на аднаго чалавека. За рысай беднасці апынуліся работнікі сельскай і лясной гаспадаркі, гандлю, аховы здароўя, сацыяльнага забеспячэння, а таксама прадстаўнікі культуры і мастацтва.

***Сярэднямесячная заработная плата ў разліку на аднаго работніка па галінах народнай гаспадаркі (тысяч рублёў)***

| | *Студзень* | *Люты* | *Студзень-люты* |
|---|---|---|---|
| Рабочыя, служачыя і калгаснікі, | 951 | 1015 | 983 |
| у тым ліку рабочыя і служачыя | 1017 | 1090 | 1054 |
| Прамысловасць | 1127 | 1121 | 1123 |
| Сельская гаспадарка | 544 | 561 | 552 |
| з яго: | | | |
| калгасы | 496 | 509 | 503 |
| саўгасы | 610 | 637 | 623 |
| Лясная гаспадарка | 963 | 992 | 977 |
| Транспарт | 1296 | 1276 | 1295 |
| з яго: | | | |
| чыгуначны | 1464 | 1457 | 1459 |
| аўтамабільны | 1074 | 1031 | 1075 |
| авіяцыйны | 2209 | 2219 | 2213 |
| Сувязь | 1070 | 1116 | 1093 |
| Будаўніцтва | 1187 | 1150 | 1166 |
| Гандаль і грамадскае харчаванне | 798 | 849 | 825 |
| Матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне і збыт | 1296 | 1372 | 1328 |
| Жыллёва-камунальная гаспадарка | 1200 | 1186 | 1190 |
| Ахова здароўя | 794 | 1095 | 945 |
| Урачы | 1253 | 1667 | 1460 |
| Фізкультура і спорт | 786 | 1092 | 943 |
| Сацыяльнае забеспячэнне | 475 | 656 | 568 |
| Адукацыя | 692 | 1004 | 856 |
| Настаўнікі | 933 | 1196 | 1064 |
| Культура | 647 | 862 | 753 |
| Мастацтва | 635 | 870 | 750 |
| Навука і навуковае абслугоўванне | 1074 | 1255 | 1163 |
| Банкі | 2056 | 2170 | 2112 |
| Страхаванне | 1055 | 1100 | 1083 |
| Кіраванне | 1303 | 1368 | 1334 |
| у тым ліку: | | | |
| апарат органаў дзяржаўнага кіравання | 1250 | 1341 | 1294 |
| судовыя і юрыдычныя ўстановы | 1633 | 1573 | 1604 |
| апарат органаў гаспадарчага кіравання | 1562 | 1338 | 1446 |

## *Аляксандр САСНОЎ:* «ДЗЯРЖАВА ПАВІННА СТВАРЫЦЬ УМОВЫ ДЛЯ ТАГО, КАБ КОЖНЫ ГРАМАДЗЯНІН САМ МОГ ВЫРАШАЦЬ СВАЕ ПРАБЛЕМЫ»

**Паводле звестак Дзяржкамстата, на сёння ў краіне ўжо зарэгістравана каля 157 тысяч беспрацоўных. Чакаецца, што ў далейшым гэта лічба будзе ўзрастаць літаральна ў арыфметычнай прагрэсіі. Становішчу на рынку працы і сацыяльнай палітыцы ў галіне занятасці насельніцтва прысвечана гутарка карэспандэнта «Звязды» з міністрам працы Рэспублікі Беларусь, кандыдатам эканамічных навук Аляксандрам Сасновым.**

*— Аляксандр Віктаравіч, як вы можаце ацаніць цяперашняе становішча на рынку працы краіны?*

— Як вельмі напружанае. Узровень фіксаванага беспрацоўя пакуль невысокі — менш за 3 працэнты. Але не сакрэт: паралельна існуе вялікае скрытае беспрацоўе, якое, па нашых звестках, знаходзіцца прыкладна на ўзроўні 14 працэнтаў ад усяго працаздольнага насельніцтва.

*— Сёння далёка не кожны, хто губляе працу, атрымлівае афіцыйны статус беспрацоўнага. Чаму?*

— Статус беспрацоўнага можа атрымаць амаль кожны. Але неабходна, каб пры гэтым выконваліся патрабаванні заканадаўства. Гэта значыць, мець працаздольны ўзрост, не мець работы, не быць прадпрымальнікам, не служыць у войску і не навучацца ў дзённых навучальных установах. А вось што датычыць дапамогі па беспрацоўю, дык тут сапраўды існуюць пэўныя абмежаванні. Так, напрыклад, разлічваць на такую дапамогу, як правіла, не можа той, хто звольнены з-за парушэнняў працоўнай дысцыпліны, альбо той, хто звольніўся па ўласным жаданні.

*— Зараз дапамога па беспрацоўю вагаецца ў межах ад 100 да 200 тысяч рублёў. Ці плануецца яе павелічэнне?*

— Павелічэнне дапамогі па беспрацоўю належыць да кампетэнцыі Вярхоўнага Савета. Але асабіста я ўпэўнены, што ў гэтым пытанні трэба быць крайне асцярожнымі. Бо пры істотным павелічэнні памеру дапамогі адначасова згубіцца сам сэнс пошуку працы. Згубіцца стымул. Таму ўзровень грашовай кампенсацыі беспрацоўным не можа быць высокім.

*— Распрацаваная ў міністэрстве праграма занятасці насельніцтва прадугледжвае прафесіянальную пераарыентацыю беспрацоўных. Ці апраўдвае яна сябе?*

— Справа ў тым, што мы ўвогуле не ўжываем такога тэрміну. У нас існуе іншае паняцце — «прафесійная арыентацыя». Як правіла, гэта спецыяльныя кансультацыі з мэтай дапамагчы чалавеку вызначыцца: для якіх работ і якіх спецыяльнасцей ён падыходзіць найбольш аптымальна. Займаюцца службы занятасці насельніцтва і прафесіянальным перанавучаннем, павышэннем кваліфікацыі беспрацоўных. Але тут узнікае мноства складанасцей. Бо важна дакладна спрагназіраваць патрэбы рынку ў тых ці іншых спецыялістах з улікам таго тэрміну, які патрэбны на іх падрыхтоўку. У адваротным выпадку можа здарыцца так, што за час падрыхтоўкі на рынку не будзе вакансій. Таму для вырашэння гэтай праблемы сіл толькі нашай службы, відаць недастаткова. Патрэбна дапамога сістэмы адукацыі і навукі.

*— Дарэчы, яшчэ адна балючая тэма — выпускнікі школ, тэхнікумаў і ВНУ. Што рабіць з імі?*

— Мы зноў ідзём да гутаркі пра тое, што патрэбна дзяржаўная палітыка, дзяржаўная сістэма працаўладкавання выпускнікоў. Так, гэта было. Але я не ўпэўнены, што такая практыка эфектыўная. Я не ўпэўнены ў тым, што дзяржава павінна гарантаваць кожнаму выпускніку працоўнае месца. Бо хочацца ў такім разе запытаць: а дзе яго, выпускніка, асабістыя намаганні?

*— Яшчэ адна праблема. Існуе думка, што сёння на тэрыторыі Беларусі нелегальна знаходзіцца вялікая колькасць грамадзян іншых краін, якія, кажучы проста, займаюць тыя працоўныя месцы, што прызначаны перш-наперш для нашых суайчыннікаў.*

— Нелегалы на Беларусі сапраўды ёсць, але ў адносінах да рынку працы гэта праблема не такая істотная. Факты сведчаць, што пераважна да нас прыязджаюць злачынныя элементы, якія, як вы разумееце, уладкоўвацца на працу зусім не збіраюцца.

*— Гісторыя краін постсацыялістычнага лагера дае нам выдатныя прыклады паляпшэння сітуацыі на рынку працы. Так, вядома: у 1993 годзе ў Польшчы 8 тысячам беспрацоўных былі выдаткаваны пазыкі на адкрыццё ўласнай справы. Ужо праз год 6,5 тысячы з іх не толькі эканамічна самі сталі на ногі, але і здолелі стварыць 75 тысяч новых працоўных месцаў. Мы да гэтага дойдзем?*

— Лічыце, мы ўжо дайшлі да пачатку гэтага. Існуе палажэнне, згодна з якім беспрацоўны на Беларусі можа атрымаць субсідыю альбо крэдыт на адкрыццё ўласнай справы, калі прадставіць адпаведныя праекты. Але трэба прызнацца, што ініцыятывы тут пакуль не хапае.

*— У такім разе, як дзяржава збіраецца ствараць новыя працоўныя месцы?*

— Па вялікаму рахунку, стварэнне новых працоўных месцаў — гэта не справа дзяржавы. Гэтым павінны займацца прадпрымальнікі. Толькі яны здольны стварыць па-сапраўднаму эфектыўныя і канкурэнтаздольныя працоўныя месцы. Што датычыць ролі дзяржавы, то вядома: у эканоміцы яна можа быць самай рознай. Але, упэўнены, што першачарговая задача дзяржавы ў тым, каб стварыць спрыяльныя ўмовы для таго, каб грамадзянін сам меў магчымасці вырашыць уласныя праблемы.

*— Аляксандр Віктаравіч, ужо некалькі гадоў ідуць спрэчкі на тэму, што лепш: калі на прадпрыемстве працуюць тысяча чалавек і зарабляюць па мільёну, альбо калі пры тых жа аб'ёмах работ працуюць пяцьсот чалавек і атрымліваюць па два мільёны?*

— Я адназначна за другі варыянт. Бо, па сутнасці, ён вядзе да росту вытворчасці працы, да эфектыўнасці эканомікі. А вось тое, што пры гэтым з'явяцца «лішнія людзі», гэта, вядома, праблема. Але хтосьці знойдзе працу самастойна, камусьці дзяржава дапаможа змяніць спецыяльнасць, а хтосьці атрымае дапамогу па беспрацоўю.

*— Атрымліваецца, вы, па сутнасці, выказваецеся за беспрацоўе?*

— Я не выказваюся за беспрацоўе. Але яно было, ёсць і будзе заўсёды. Гэта рэальнасць, ад якой нікуды не схавацца. Да таго ж менавіта беспрацоўе з'яўляецца лепшым стымулам, каб пачаць адносіцца да сваёй працы з большай павагай. Гэта першая ўмова таго, каб эканоміка магла развівацца.

*— Але як у такім разе быць з нашым традыцыйным прынцыпам сацыяльнай справядлівасці?*

— Сацыяльная справядлівасць — гэта не што іншае, як роўнасць усіх перад законам. Безумоўна, у любым грамадстве ёсць людзі, якія яшчэ ці ўжо не могуць працаваць — гэта інваліды, састарэлыя, дзеці. Ім трэба дапамагаць. Але астатнія павінны сумленнай працай самі дасягнуць такога ўзроўню жыцця, якога яны заслугоўваюць. Спробы ж стварыць пад шыльдай сацыяльнай справядлівасці нейкі агульны «кацёл» — гэта не што іншае, як звычайнае заахвочванне ўтрыманскіх настрояў.

**Сяргей ГРЫБ.**

БЕЛАРУСКАЯ ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ НАПРЫКАНЦЫ СТАГОДДЗЯ

# Сістэма Васілеўскіх,

## або Міфы і рэаліі сучаснай правінцыі

❶

Калі гаварыць пра вёску Сялец, што на Брэстчыне, то яе, канешне ж, глухой правінцыяй не назавеш. Некалі Сялец быў мястэчкам, меў магдэбургскае права. Тут дзейнічалі праваслаўная і уніяцкая царква, сінагога і касцёл; адбываліся вялікія кірмашы, мясцовыя майстры выраблялі рэдкай прыгажосці рэчы... Усе жыхары Сяльца, захоўваючы ў памяці яго былую славу, маюць свой гонар, сваю амбіцыйнасць, калі можна так сказаць.

Паблізу Сяльца горад Бяроза, а там — чыгуначная станцыя, што звязвае з вялікім светам. Аднак аўтобус, які раней хадзіў з Бярозы ў вёску праз кожныя дзве гадзіны, цяпер — толькі тройчы на дзень. Гэта вымушае мясцовых жыхароў садзіцца на веласіпед або хадзіць пешкі. Рух, безумоўна, спрыяльна ўздзейнічае на здароўе, а адсутнасць транспарту — на экалогію, але ж усё гэта стварае шмат нязручнасцей для вяскоўцаў. Бо атаварваюцца яны ў асноўным у Бярозе. Ну, і па-другое, узнікае дыскамфорт, адчуванне сваёй адарванасці ад цывілізацыі.

Сяргей Васілеўскі, 27-гадовы выпускнік Гродзенскага медыцынскага інстытута, прыехаў у Сялец у 1985 годзе, калі з транспартам тут было значна лепш. У кожнага другога гаспадара ў двары стаяла машына. І выглядала, што людзі жывуць тут у дастатку.

Яго разам с жонкай, таксама медыкам, накіравалі ў той год на працу ў Сялецкую бальніцу. Усе іх сябры былі здзіўлены тым, што адны з лепшых студэнтаў паехалі на раён. «Там вы пахаваеце свае здольнасці і мары,— казалі яны,— загубіце сваю будучыню». Але Васілеўскія палічылі інакш. Заставацца ў Гродне азначала для іх жыць у бацькоў, быць залежнымі. Сяргею ж хацелася ўсё зрабіць для сваёй сям'і самому, яму ўяўлялася, што ў маленькай вясковай бальніцы яны змогуць больш самастойна, чым у горадзе, працаваць, увасабляць свае планы і задумы. Ну і потым яны абодва былі перакананы, што не месца ўпрыгожвае чалавека, а чалавек месца.

❷

Бальнічка Ў Сяльцы знаходзілася ў двухпавярховым будынку, узведзеным яшчэ ў 1903 годзе для мясцовай гміны.

Тое, што ўбачыў Сяргей Васілеўскі, прызначаны сюды галоўным урачом, яго моцна ўразіла. Па-першае, у самой бальніцы стаяла такая халадэча, што толькі ненармальны, на яго думку, мог прыйсці сюды лячыцца. Медсёстры хадзілі ў целагрэйках. Нейкі стары дзед у шапцы-вушанцы ляжаў на ложку...

Маладому доктару давялося спачатку зрабіць рамонт у бальніцы, забяспечыць яе палівам для ацяплення, а ўжо потым заняцца лячэннем пацыентаў. Адначасова з навядзеннем парадку ў старой бальніцы Сяргей пачаў рабіць захады для будаўніцтва новай. Якіх намаганняў гэта каштавала! Скажу адразу: новую бальніцу пабудавалі, але яна яшчэ не пачала працаваць. Мясцовыя ўлады абяцаюць, што сёлета яна будзе нарэшце здадзена «пад ключ». Усё абсталяванне для яе Сяргей набыў яшчэ да перамен, быццам адчуваў, што трэба спяшацца. Па словах Сяргея Васілеўскага, бальніца гэта будзе сапраўднай казкай, яго ажыццёўленай марай. 75 чалавек змогуць тут лячыцца адначасова. Будзе зала ЛФК, абсталяванне, якое дазволіць рабіць дыягностыку па самых сучасных методыках.

❸

Што значыць быць доктарам на вёсцы? Гэта зусім не тое што ў горадзе. Тут усе навідавоку адзін у аднаго, кожны ведае, як жыве яго сусед, якія ў яго праблемы. «Хуткая дапамога» абслугоўвае толькі горад ды бліжэйшыя вёскі. у Сяргея і Вольгі Васілеўскіх — дваіх дактароў у Сяльцы — пад наглядам жыхары 12 вёсак, а гэта тры тысячы чалавек. У любы час сутак у кватэры Васілеўскіх можа зазваніць тэлефон і нехта пакліча іх на дапамогу. Цяпер у іх распараджэнні машына, якую купілі ў самую першую чаргу як найбольшую неабходнасць. А напачатку даводзілася ездзіць на выклікі да хворых на калгасным кані. Тут, у Сяльцы, як кажуць Васілеўскія, яны не належаць самім сабе цалкам. Дарэчы, гавораць пра гэта Васілеўскія без раздражнення, без усялякай крыўды на свой лёс і даволі клопатныя абавязкі. Так гавораць людзі, якія добраахвотна ўзялі на сябе нейкую адказную місію.

— Вяскоўцы, у адрозненне ад гараджан,— лічыць Сяргей,— звяртаюцца да доктара толькі ў тым выпадку, калі ўжо «няма як цярпець боль». І часта, калі хвароба хранічная, патрабуецца сур'ёзнае лячэнне. А ўвогуле вяскоўцы даволі нядбайна ставяцца да свайго здароўя. Прычын гэтаму многа: цяжкая праца, неспрыяльныя бытавыя ўмовы, невысокая культура — усё гэта разам — той фон, на якім хутка губляюць здароўе, становяцца бездапаможнымі інвалідамі не старыя яшчэ людзі. Адна з найбольш распаўсюджаных хвароб сярод вяскоўцаў — радыкуліт. Ён цяжка паддаецца лячэнню. А хворыя прывыклі, што панацэя ад усіх хвароб — таблеткі, уколы. На жаль, цяпер у бальніцы проста катастрафічнае становішча з лякарствамі, хворыя мусяць самі недзе купляць іх. 40 ампул анальгіну мы зберагаем на ўсякі выпадак... Сорамна бывае перад хворымі за такое становішча спраў у медыцыне.

Асабліва перад старымі, якія ўсё жыццё працавалі ў калгасе, без астатку аддавалі грамадству свае сілы і здароўе. А што цяпер можа зрабіць для іх грамадства?

Вопыт работы Васілеўскіх на вёсцы, іх цяжка хворы старэйшы сын падштурхнулі звярнуць увагу на нетрадыцыйныя метады лячэння. Сяргей, напрыклад, называе гэта «экалагічна чыстай медыцынай». Для таго, каб авалодаць той альбо іншай тэхнікай лячэння, Сяргей і Вольга мусілі неаднойчы ездзіць у Маскву, дзе ў канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў праслухалі лекцыі і прайшлі навучанне ў амерыканскіх, кітайскіх, японскіх і карэйскіх спецыялістаў па мануальнай тэрапіі, іголкарэфлексатэрапіі, ірыдадыягностыцы, у заснавальнікаў гэтых школ. Дарэчы, у Сялецкай бальніцы ўжо не першы год выкарыстоўваюць метад ірыдадыягностыкі. А Вольга Васілеўская адна з першых у Беларусі авалодала ім. Мае яна і дыплом спецыяліста міжнароднага класа на цялесна-арыентаванай псіхатэрапіі. Што датычыцца Сяргея, то ён увогуле спецыяліст экстракласа ў Беларусі па нетрадыцыйных метадах лячэння і з'яўляецца членам чатырох асацыяцый: іголкарэфлексатэрапіі, еўраазіяцкай мануальнай медыцыны, псіхатэрапіі і гіпнозу.

Прадмет яго асаблівай гордасці — міжнародны сертыфікат, што выдадзены панам Масаюкі Саянджы, заснавальнікам метаду, які носіць яго імя. У аснове гэтай методыкі лячэння — сінтэз усходняга масажу і мануальнай тэрапіі. У Беларусі Сяргей Васілеўскі — адзіны чалавек, якому пасля здачы экзаменаў быў уручаны такі сертыфікат.

Разам з Вольгай яны дыпламаваныя інструктары кітайскай цыгунтэрапіі (цыгун — гэта майстэрства ўмацавання здароўя, якое практыкуецца ў Кітаі).

Выкарыстоўваючы метады традыцыйнай і нетрадыцыйнай медыцыны, Сяргей і Вольга змаглі паставіць на ногі многіх цяжка хворых пацыентаў.

У Сялец да Васілеўскіх едуць лячыцца не тое што з Бярозы, але і з Брэста, Мінска. Ім пішуць лісты, у якіх просяць парады і дапамогі.

А для сваіх, мясцовых пацыентаў Васілеўскія сталі чымсьці накшталт сямейных дактароў. Аўтарытэт іх надзвычай вялікі, таму ідуць не толькі каб палячыць грып ці прастуду, але звяртаюцца па пытаннях выхавання дзяцей, псіхалагічных пытаннях.

Праблема, з пункту гледжання Васілеўскіх, заключаецца ў тым, што мясцовыя жыхары недаацэньваюць пакуль што метады нетрадыцыйнай медыцыны. «А ўвогуле работа ў лячэбнай установе ацэньваецца па ложка-днях, колькасці амбулаторных прыёмаў, нагрузкай на доктара, колькасцю выдадзеных бальнічных лістоў, а не якасцю работы. Якасць лячэння ў сучаснай айчыннай сістэме аховы здароўя нікога проста не цікавіць. І калі тэарэтычна ўявіць, што мы вылечым усіх сваіх пацыентаў, нас проста выганяць з працы»,— тлумачыць Сяргей.

❹

Чытач можа папытацца, як простым вясковым дактарам з вельмі невялікімі заробкамі ўдалося ажыццявіць шматлікія паездкі на кангрэсы, семінары, сімпозіумы, што заўсёды вымагае немалых сродкаў. Можа быць, бацькоўская спадчына, уплывовыя знаёмыя? Асабіста маё здзіўленне выклікаў і той факт, што бальніца мае шматфункцыянальны камп'ютэр, які расшыфроўвае паказанні работы сэрца і сасудаў, ажыццяўляе шмат іншых аперацый. Не ва ўсякай сталічнай паліклініцы ёсць такое абсталяванне... Я папрасіла расказаць пра ўсё гэта саміх Васілеўскіх.

... Жывуць яны ў старой трохпакаёвай калгаснай кватэры, у якой сялілі ўсіх дактароў, што працавалі ў Сяльцы. Разам з імі — сын-інвалід і дачка. Тут, у Сяльцы, пахаваны і трэці сын, які памёр немаўляткам. Гора, якое звалілася на гэтых дваіх маладых і прыгожых людзей, не зламала іх, наадварот, яшчэ больш умацавала дух і імкненне займацца стваральнай працай.

Як кажа Вольга, на вучобу і паездкі пайшло нямала ўласных грошай. Але вялікую дапамогу ў свой час аказвалі мясцовыя калгасы. Бывала і так, што Сяргей пасля паездкі мусіў месяц ці два адпрацаваць як спецыяліст па мануальнай тэрапіі. Той жа камп'ютэр — з эксперыментальнай партыі, выпушчаный на адным з мінскіх прадпрыемстваў. Пра такія камп'ютэры яны даведаліся з навуковай літаратуры, якую выпісваюць, з інфармацыі, што паступае да іх з асацыяцый, членамі якіх яны з'яўляюцца.

— Ніякіх загадак і сакрэтаў,— патлумачыў мне Сяргей Васілеўскі,— мы з Вольгай — пралетарскія дзеці. Жыццё склалася так, што мы ўжо 10 гадоў жывём у вёсцы. Калі толькі прыехалі сюды, то трэба было вырашыць, як будзем жыць: па-гарадскому ці па-вясковаму. Выбралі сярэдні варыянт. Бо інакш, калі б завялі хатнюю жывёлу, практычна не мелі б часу на павышэнне свайго прафесіянальнага ўзроўню. Уся садавіна і агародніна — свае, вырашчаныя на прысядзібным участку. Мяса мы ўжо шэсць гадоў не ўжываем — вегетарыянцы. Абліваемся халоднай вадой па метаду Іванова...

Я магу ўявіць, якімі дзівакамі здаваліся на першым часе ў вёсцы гэтыя двое. З іх з'яўленнем у Сяльцы штосьці стала мяняцца. Іх уласны лад жыцця, іх адносіны да хворых, узаемаадносіны з калегамі і начальствам паступова сталі ствараць той асаблівы духоўны мікраклімат, у якім людзям хацелася быць прыгожымі, праяўляць толькі лепшыя якасці сваей натуры і характару. У пэўным сэнсе дысанансам старой, спарахнелай, як пераспелы грыб, бальніцы ў Сяльцы з'яўляецца ўвесь яе калектыў. Заўсёды падцягнутыя, далікатныя дактары — Сяргей і Вольга Васілеўскія, маладыя медсёстры, санітаркі. Нягледзячы на цяжкія бытавыя ўмовы, у бальніцы заўсёды ідэальная чысціня, пануе атмасфера добразычлівасці.

...Пакуль я была ў гасцях у Сяргея і Вольгі Васілеўскіх, мы гаварылі з імі на самыя розныя тэмы. Аказалася, што Сяргей ведае англійскую мову, дзякуючы чаму можа чытаць усю навейшую інфармацыю па сучаснай медыцыне і метадах лячэння. Але ён па-ранейшаму застаецца прыхільнікам экалагічна чыстай медыцыны. Працуе над пошукам, вывучэннем і накапленнем метадаў лячэння экалагічна чыстай медыцыны. Ён лічыць гэта вельмі перспектыўным напрамкам, таму што ўзровень дапамогі класічнай медыцыны насельніцтву вельмі знізіўся. І, на яго думку, ёсць сэнс не столькі лячыць, колькі дапамагаць арганізму перамагчы хваробу. Пра тое, што накоплены Сяргеем вопыт па лячэнню радыкулітаў эфектыўны і мае навуковае значэнне, можа сведчыць і той факт, што ў навуковым медыцынскім часопісе, які з'яўляецца выданнем Еўраазіяцкай акадэміі навук, разам з працамі патрыярхаў мануальнай тэрапіі друкуюцца артыкулы доктара з беларускай вёскі Сялец.

❺

Дык што ж такое сістэма Васілеўскіх? Я доўга разважала над феноменам самой з'явы «Васілеўскія». Чамусьці прынята лічыць, што ўсё самае лепшае — у сталіцы, у горадзе. А ў правінцыі — другараднае, малазначнае. Але Васілеўскія сваім уласным прыкладам і ўласным жыццём паказалі, што ўсё гэта — лухта. «Калі хочаш нешта зрабіць — рабі, а не кажы пра гэта,— гаворыць Сяргей. — Мы з Вольгай рабілі і робім сваю справу так, як мы яе разумеем. Мы стараемся нікога не павучаць, не навязваць сваіх думак. Мы лечым людзей, садзім кветкі, не ставім сябе вышэй за іншых. Выратуйся сам — і выратуюцца людзі вакол цябе, сцвярджае народная мудрасць. Рабі дабро. Увогуле, я кіруюся прынцыпам малых спраў. Не блытайце з тэорыяй «народніцтва». Гэта Лао- дзы, будызм. Там напісана: «Зрабі сённяшні дзень хоць крышку лепшым за ўчарашні». А сляпой веры ў тое, што нехта зробіць для цябе лепшае жыццё, не павінна быць».

Дзесяць гадоў назад, калі Сяргей Васілеўскі ўпершыню прыехаў у Сялец, ён, напэўна, і не думаў, што застанецца тут надоўга. Цяпер, як я зразумела, яны не збіраюцца куды-небудзь пераязджаць. Тут — галоўная справа іх жыцця. Вось-вось яны перабяруцца ў катэдж, пабудаваны спецыяльна для іх сям'і. Сяргей, напрыклад, лічыць, што ў вёсцы людзі жывуць як у абшчыне, яны больш блізкія адзін аднаму, больш душэўныя, уважлівыя. А ў горадзе людзей многа, але яны больш адзінокія, непрыкаяныя, мітуслівыя, увесь час некуды спяшаюцца.

«Калі мы жылі ў Гродне, то сустракаліся з сябрамі,— кажа Сяргей,— раз у месяц, хаця жылі ўсе побач. А цяпер са сваім калегам, доктарам Валодзем Аўчыннікавым, архітэктарамі Маразюкамі мы сустракаемся кожную суботу. І кожная сустрэча — гэта свята».

Калі Сяргей і Вольга расказваюць пра свой Сялец, то я адразу яскрава ўяўляю яго жыхароў, тутэйшую атмасферу і плынь жыцця.

З вокнаў іх цяперашняй хаты відаць касцёл. Ён аднаўлены на сродкі і праваслаўных, і католікаў. Людзі тут вельмі рэлігійна цярпімыя. Праваслаўныя бываюць у касцёле, а католікі, наадварот, — у царкве.

Усё рацыянальна ў жыцці тутэйшых сялян. Яны як рабілі сваю справу, так і робяць. Калі калгасы былі багатыя, кароў трымаў мала хто, а цяпер у вёсцы аж тры статкі. Людзі неяк паблажліва слухаюць усё, што ім гавораць «зверху», па радыё і тэлебачанні, а самі абзаводзяцца свойскай жывёлай, зямлёй... На калгас ужо ніхто не спадзяецца. Тым больш, што там амаль нічога не плацяць. Вядома, што ўсе перамены, якія адбываюцца ў краіне, адгукаюцца рэхам і на вёсцы. Калі кепска ў горадзе, то ў вёсцы ўтрая горш. У калгасе таксама з'явіліся беспрацоўныя. Мужыкі без работы співаюцца.

Палітыкай вяскоўцы цікавяцца тады, калі гэта датычыцца іх асабістых спраў.

Вольга і Сяргей, як дактары, бывалі ў хаце ў многіх вяскоўцаў, бачылі, як яны жывуць, і лічаць, што людзі тут вельмі розныя. Калі адны не ведаюць, што такое кнігі, то другія маюць прыстойныя ўласныя бібліятэкі, нездаволеныя тым, што цяпер нельга выпісаць такую колькасць газет і часопісаў, як раней.

Вельмі сур'ёзнай праблемай на вёсцы Сяргей Васілеўскі лічыць змяншэнне колькасці дзяцей. Напрыклад, за 10 гадоў іх работы тут былі закрыта тры школы — у Плехаўшчыне, Панасавічах і летась у Сошыцы. Праўда, цяпер сітуацыя, на яго думку, павінна змяніцца. Улічваючы праблемы з працаўладкаваннем у горадзе, вясковая моладзь стала заставацца ў калгасах.

— Як яна будзе паводзіць сябе далей, невядома,— лічыць Вольга Васілеўская. — Напрыклад, у суседнім калгасе пару гадоў назад даяркамі сталі працаваць маладзенькія дзяўчаты. Калі я першы раз прыехала туды на медагляд, то была ўражана іх знешнім выглядам — прыгожыя, культурныя, адукаваныя. Усе яны ўладкаваліся на ферму з-за кватэр, якія абяцаў калгас. Праз год гэта былі ўжо зусім іншыя людзі — я адзначыла ўпадак духу, скептыцызм, пагаршэнне іх здароўя. У гэтым вінаваты і кепскія ўмовы працы і жыцця, малая зарплата. Ім тут вельмі цяжка...

❻

На маё пытанне, якія крытэрыі вызначаюць сучасную беларускую інтэлігенцыю, Сяргей Васілеўскі сказаў, што гэта ў першую чаргу пэўны ўзровень адукацыі. Па- другое, паводле Васілеўскага, інтэлігентнасць — гэта стан чалавека, які ўмее думаць і які знайшоў сваё месца і мэту ў жыцці.

— У нас, у Сяльцы, жыве нямала людзей сапраўды інтэлігентных,— лічыць Васілеўскі.— У першую чаргу гэта настаўнікі. На жаль, жыццё нярэдка ламае іх высокія памкненні... Яшчэ гэта медсёстры, фельчары, дактары, работнікі культуры, бібліятэкары...

Ці кожны з тых, каго назваў Сяргей, змаглі самарэалізавацца, як ён з жонкай, у гэтым жыцці? Ці кожны мае задавальненне ад таго, што ён робіць? Ці адэкватная аддача ад іх намаганняў? Цяжка, напэўна, адназначна адказаць на такія пытанні. Адназначна толькі тое, што ўсе яны самааддана, самаахвярна працуюць на карысць сваёй Бацькаўшчыны, дзеля захавання фізічнага і духоўнага здароўя свайго народа. Але на тую зарплату, якую яны атрымліваюць, пражыць немагчыма. Таму даводзіцца «карміцца з зямлі», з простай сялянскай працы, якая вымагае немалых высілкаў і намаганняў, абмяжоўвае і звужае магчымасці прафесіянальнага росту. Таму, напэўна, так рэдка едуць у правінцыю, на вёску такія людзі, як Васілеўскія, а тыя, што тут нарадзіліся, таленавітыя і здольныя, пакідаюць гэты край, спадзеючыся знайсці сваё шчасце ў іншых месцах.

**Таццяна АНТОНАВА.**

На здымку: Сяргей Васілеўскі і яго жонка Вольга (трэцяя злева ў першым радзе) сярод супрацоўнікаў Сялецкай бальніцы (здымак 1990 г.).

# «ТАВАРЫШ МІНІСТР, ЗРАБІЦЕ МЯНЕ ІНВАЛІДАМ...»

Так здарылася, што мне ўдалося пабываць на двух апошніх знакамітых мітынгах: «бела-чырвона-белым» і проста «чырвоным».

На першы пайшоў свядома. На другі ўвогуле не збіраўся, ды вырашылі ўрэшце выбрацца ў «Маскву», зрабіць сабе маленькае свята. Кіно было дрэнь, білеты купляць не сталі, але, як кажуць, далучыліся... З'явілася магчымасць правесці параўнальны аналіз.

Цікавая рэч: калі забыць пра колер сцягоў, то кідаецца ў вочы: на першым мітынгу былі дзеці, на другім — бацькі. Пераважна моладзь і пераважна старыя. Маладых і сярэдняга ўзросту людзей з другога мітынгу ўлічваць не трэба: многія там былі па загаду начальства, а не сэрца.

Атрымліваецца вельмі знаёмы канфлікт тыпу «бацькі і дзеці». Ёсць патрэба перапісаць вядомы раман у сучаснай «аранжыроўцы».

Праўда, ёсць адрозненне. У часы Івана Сяргеевіча Тургенева «дзеці» выступалі супраць «бацькоў». Зараз усё наадварот. Некаторыя рашуча настроеныя пенсіянеры могуць пабіць чалавека з бела-чырвона-белым сцягам. Але гэта апошні аргумент. Верагодна, ад бяссілля. Ад адзіноты, недаядання, татальнага неразумення, закінутасці, беднасці, — адным словам, ад сваёй нікому непатрэбнасці. Толькі так.

Але, Божа мой, ці сумленна гэтых няшчасных выкарыстоўваць? Ці можна?

Калі гавораць, што палітыка — брудная рэч, то самы «сакавіты» бруд вось у гэтым. «Навешаць лапшы», падмануць, а ўвогуле — дабіцца сваёй маленькай карыслівай мэты: каб некуды выбралі, прызначылі, далі персанальную «кармушку», сінекуру. На жаль, гэта датычыцца ўсіх палітыкаў незалежна ад арыентацыі.

...Самае яркае ўражанне ад другога мітынгу: да прыпынку цягнецца сухенькая бабуля, на плячы трымае неяк бокам плакат, з яго хітра ўсміхаецца Пётр Міронавіч Машэраў, а вочы ў бабулі сумныя-сумныя і такія стомленыя...

* * *

Адзін калега... прабачце, адзін піша ў сваёй газеце: «сцяг колеру «сала-мяса-сала»... У сэнсе, бела-чырвона-белы. Безумоўна, бліскучая знаходка. Як гаворыцца, «ради красного словца не пожалею мать-отца».

Вядома, ёсць розныя погляды на гісторыю гэтай краіны. Іх можна выказваць адкрыта, Канстытуцыя дазваляе (праўда, не ўсё і не ўсюды). Вось гэты выказаў. Але навошта з такім беззапаветным імпэтам, я сказаў бы, з высокім натхненнем?

Ніхто ж не загадваў пісаць менавіта так, сам, значыць, вырашыў усё для сябе: «сала-мяса-сала».

Паводле некаторых даных, ідэі нацыянальнага адраджэння падзяляюць у нас больш мільёна чалавек. Атрымліваецца, пакрыўдзіў іх усіх.

У мінулым стагоддзі ўсё ж такі было прасцей. Ездзілі на конях, пісалі вялікія пісьмы, пакрыўдзілі — можна было кінуць пальчатку і вырашыць супярэчнасці на дуэлі. Па-мужчынску. Паспрабуй зараз. Даў некаму ў сківіцу — і бяжы хутчэй у міліцыю, пішы заяву. Хто першы дабег — таго і праўда.

Увогуле, ёсць жаданне даць параду юнаму...: заўсёды трэба думаць аб выніках. Мярзотнік, ён пры любым рэжыме мярзотнік. Адназначна.

* * *

Пару месяцаў назад у адной з газет прыводзілі вынікі даволі цікавага сацыялагічнага апытання. Сацыёлагі высвятлялі, наколькі народ ведае сваіх кіраўнікоў.

Некалькі працэнтаў лічылі, што прэзідэнтам краіны з'яўляецца Вячаслаў Кебіч. Частка без ценю сумнення адказала: прэзідэнт — Міхаіл Чыгір. Яшчэ нейкая (дзякуй Богу, невялікая) колькасць не магла сказаць, хто кіруе Беларуссю.

Ілюстрацыя да ўсіх былых і маючых быць выбараў.

* * *

Ёсць такі часопіс — «Судовы веснік». Часопіс вузкаспецыяльны, тыраж невялікі. Там іншы раз на апошняй старонцы друкуюць розныя «залепы» з судовай практыкі. Напрыклад:

«З усёй сям'і толькі мой член непрацаздольны».

«Мая дачка працуе ў калгасе аўчаркай» (у сэнсе — даглядае авечак).

«Я пражываю з адзінай сястрой — дзяўчынай 76 гадоў».

«Я сам без правай рукі, дзіця двух месяцаў і таксама не працуе».

«Прашу растлумачыць, ці з'яўляецца жонка падсобнай гаспадаркай і які ад яе прыбытак».

«У мяне паралізаваны ніжнія канечнасці, інакш кажучы, ад пупа і ніжэй».

«Я жонка афіцэрскага саставу».

«Таварыш міністр, прашу зрабіць мяне інвалідам».

«Я жонка былога мужа. Мой муж гістарычны воін усіх відаў».

«У мяне абрэзалі правы, дадзеныя мне Канстытуцыяй».

«Яшчэ раз падкрэсліваю: я, як маці 4-месячнага дзіцяці, падтрымліваючы ўсе нашы парадкі і законы, ведаючы іх гуманнасць, з гневам асуджаючы агрэсію ў В'етнаме, падзяляючы гора маці гераічнага В'етнама, выступаючы супраць бесчалавечных адносінаў да неграў у ЗША, не магу пагадзіцца з рашэннем нарсуда Фрунзенскага раёна г. Мінска аб высяленні мяне».

Увогуле, фразай экстракласа мне падалася наступная: «Не паспела даярка сысці з трыбуны, як на яе ўзлез старшыня».

Так і паўстае за гэтым мой народ: наіўны, даверлівы, прастадушны. І, мякка кажучы, малапісьменны. Ні дабавіць, ні адняць.

Бачыцца так ясна: ён жыве сваім раслінна-натуральным жыццём. Многае, вельмі многае праплывае міма яго рэліктавай свядомасці.

Як, скажам, растлумачыць вясковаму чалавеку, што такое электарат?..

* * *

Маленькае адкрыццё. Аказваецца, за педэрастыю ў нас можна ўзбудзіць крымінальную справу без згоды пацярпеўшага (хто яго ведае, пацярпеў ён ці наадварот?), а за згвалтаванне — толькі пры жаданні пацярпеўшай.

Як гэта разумець? Калі «пацярпеўшай» спадабалася, то заяву яна пісаць не будзе?

Увогуле, тут бачны прыярытэты нашага грамадства. За апошнія пяць-шэсць гадоў яны істотна не змяніліся.

Нагадваю Даўлатава. У нас, паведамляе ён з гордасцю аднаму французу, за гомасексуалізм саджаюць. На што француз у яго пытае: а за гемарой у вас не саджаюць?

Так што больш-менш усё зразумела. Груба кажучы, калі жанчыну згвалтавалі, то яна можа зацяжараць і нарадзіць будучага воіна (рабочага, селяніна, вынаходніка стралковай зброі, урэшце, проста рабсілу). Ясна, што мужчына, які ўхіляецца ад сваіх асноўных абавязкаў па ўзнаўленню грамадства, ёсць злачынец. У кутузку яго...

* * *

Нядаўна даведаўся, што ў Гомельскім абласным судзе побач з залай пасяджэнняў ёсць фірменны каўбасны магазін.

А што, я хацеў бы, каб мяне там судзілі. Трагізм становішча быў бы разбаўлены гастранамічным водарам. Такая хатняя, свойская абстаноўка. Усюды жыццё...

З другога боку, пры зарплаце суддзі ў 900 тысяч на такім фоне маглі б засудзіць. Галодны суддзя — небяспечны суддзя. Тое ж у прынцыпе можна сказаць пра сантэхніка, настаўніка, муляра, міліцыянера і г. д. і да т. п.

* * *

У адным з мінскіх судоў хутка будуць разглядаць справу па арт. 911. Суддзі называюць яго «мафіёзным». Сэнс: крадзеж у асабліва буйных памерах.

Скажам, летась нехта залез у кватэру і выкраў маёмасці на 6 мільёнаў рублёў. Значыць, чысты 911. Падлік тут вельмі просты: 100 мінімальных зарплат — вось і крадзеж у асабліва буйных памерах.

Раней было 10 тысяч, іначай, паўтара «Жыгуля». Сёння 6 мільёнаў — гэта два не самыя лепшыя тэлевізары айчыннай вытворчасці. Але дадуць вам (абавязаны даць) ад 10 да 15 гадоў узмоцненага рэжыму.

Але смяшней за ўсё не гэта, а тое, што ў тым жа судзе да разгляду рыхтуюць другую справу: будуць судзіць грамадзяніна, які накраў на 650 мільёнаў. І зусім магчыма, атрымае ён менш. Даўно заўважана: чым больш накраў, тым меншы тэрмін.

Мне застаецца пагадзіцца з пралетарскім пісьменнікам Горкім: «На святой Русі (Беларусі, Украіне і г. д. — С. Ш.) калі пачне чалавек здзіўляцца, то так і прастаіць усё жыццё як слуп». Дакладнасць не гарантую, але сэнс такі.

Многа ў нас цудаў, многа. Затое жыць цікава...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

**Наўрад ці ёсць дзе-небудзь манументы, якія ўвекавечваюць нацыянальную валюту. Цяпер будуць. І зусім не ў Амерыцы альбо Германіі, а ў Расіі.**

Нядаўна праект помніка расійскаму рублю зацверджаны спецыяльнай камісіяй пад кіраўніцтвам прэзідэнта Расіі ў Стаўраполлі. Цэнтральнай «фігурай» манумента стане ўстаноўленая на рабро манета вартасцю ў адзін рубель выпуску 1992 года, павялічаная да трох метраў у дыяметры і вагой у 12 тон. Зманціруюць збудаванне ў адным з гарадоў-курортаў края, а пад ім размесцяць спецыяльны басейн — для манетак, якія на памяць будуць кідаць турысты.

**ЭКСТАРА-ПРЭС**

У Гановеры арыштаваны шэф фірмы «Плюс канцэпт» Хонс Г. і яго саўдзельнік адвакат Ульрых К. Абяцаючы высокія працэнты па ўкладах і ўдзел у прыбытковых зделках, яны «надулі» 25 тысяч даверлівых укладчыкаў больш чым на 300 мільёнаў марак. Гэткім жа чынам мюнхенская фірма «Нафтавае таварыства» падманула ўкладчыкаў на 216 мільёнаў марак, фірма «Амброз» з Дуйсбурга пазбавіла даверлівых бундэсбюргераў 230 мільёнаў. На гэтым фоне меркнуць махінацыі іншых камерцыйных структур. Фірма «Кеш энд Кеш» з Браўншвейга пагарэла «ўсяго» на 64 мільёнах, а гановерскае бюро «Сейф» абабрала людзей на 48 мільёнаў марак.

**ІТАР-ТАСС**

Выяўлены падпальшчык у адным з пяціпакаёвых дамоў пасёлка Троіцка-Пячорск Рэспублікі Комі. Ім аказалася ... вялізная крыса. Як высветлілі пажарныя, шэрая істота забралася ў электрашчыт і зрабіла кароткае замыканне. У выніку ў пад'ездзе выгарала ўсё, што магло гарэць. Ад сажы моцна пацярпелі і кватэры. Урон склаў некалькі мільёнаў рублёў.

**ЕАН**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**ВЯДУЦЦА ПОШУКІ ЦЕЛАЎ**

На месцы падзення транспартнага самалёта Іл-76 пачаліся планамерныя пошукі целаў людзей і прыбораў кантролю. Паралельна тут жа абсталёўваецца лагер для выратавальнікаў, бо работы могуць працягвацца не адзін дзень. Пакуль знойдзены фрагменты абшыўкі крыла, часткі трубаправода, а таксама асабістыя рэчы членаў экіпажа. Самалёт пасля таго, як урэзаўся ў гару, трапіў пад снежную лавіну. Зараз у раёне катастрофы праводзяць работы байцы асобнага механізаванага батальёна МЧС і пошукава-выратавальныя службы.

**ІЗРАІЛЬ САСТУПАЦЬ НЕ ЗБІРАЕЦЦА**

Ізраільскія сухапутныя часці і авіяцыя правялі абстрэл і бамбардзіроўку паўднёвай часткі Лівана. Абстрэл праводзіўся па цэлях, дзе знаходзяцца базы экстрэмісцкай арганізацыі «Хазбалах». Пакуль няма даных па ахвярах і разбурэннях. Гэта акцыя звязана з нядаўнім абстрэлам ліванскімі экстрэмістамі паўночнага Ізраіля, у выніку чаго пацярпелі 13 чалавек. Паводле заявы «Хазбалах», гэта акцыя — адказ на мінулую ізраільскую бамбардзіроўку ў паўднёвым Ліване, падчас якой загінуў хлопчык-падлетак. Ізраіль у сваю чаргу папярэдзіў Ліван, што будзе адказваць на любыя атакі.

**ЛЁС АЛЖЫРСКАЙ ДЭМАКРАТЫІ БУДУЦЬ ВЫРАШАЦЬ ПРАЗ ДВА ТЫДНІ**

Галоўная апазіцыйная партыя Алжыра — Фронт сацыялістычных сіл дала згоду на сустрэчу з урадам, каб абмеркаваць на ёй пытанні ўсталявання шматпартыйнай дэмакратыі ў краіне. Прадстаўнік партыі сказаў, што на сустрэчы яны прапануюць свае погляды на ўсталяванне грамадзянскага міру ў краіне, дэмакратычныя працэсы і нацыянальную справядлівасць. Прэзідэнт Алжыра ўжо правёў перамовы з двума былымі прэм'ерамі напярэдадні будучай сустрэчы, якая адбудзецца праз два тыдні.

**ПАЎНОЧНАЯ КАРЭЯ ЛІЧЫЦЬ, ШТО МІРНАЯ ДАМОВА ЎСТАРЭЛА**

Паўднёвая Карэя звярнулася да сусветнага супольніцтва з заклікам патрабаваць ад Паўночнай Карэі выканання мірнай дамовы, падпісанай у 1953 годзе. Такі заклік урад Карэі накіраваў у адрас 30 дзяржаў, у тым ліку ЗША, Расіі, Кітая і Японіі. За апошнія дні паўночнакарэйскія вайскоўцы тройчы знаходзіліся ў дэмілітарызаванай зоне паміж дзвюма карэйскімі дзяржавамі. Міністр абароны Паўднёвай Карэі заявіў пасля надзвычайнага пасяджэння, што яго краіна гатова адказаць на вылазку свайго паўночнага суседа канкрэтнымі дзеяннямі. Напрыканцы мінулага тыдня амерыканскія войскі, якія знаходзяцца на тэрыторыі Паўднёвай Карэі, і карэйскія фарміраванні былі прыведзены ў павышаную баявую гатоўнасць.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і радыё «101,2» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

# НОВАЕ Ў ПРАВІЛАХ ПРЫЁМУ Ў ВАЕННУЮ АКАДЭМІЮ

**Загадам міністра абароны № 159 ад 25 сакавіка 1996 года ўдакладнены парадак прыёму слухачоў і курсантаў у Ваенную акадэмію Рэспублікі Беларусь. Пракаменціраваць гэтае рашэнне прэс-служба Міністэрства абароны папрасіла палкоўніка Сяргея Іванавіча Лаўшука, начальніка аддзела ваеннай адукацыі ваеннага ведамства.**

— Згодна з загадам міністра абароны ў бягучым годзе зменены правілы прыёму ў Ваенную акадэмію Рэспублікі Беларусь. У чым іх сутнасць? Па-першае, не абмяжоўваецца колькасць жадаючых паступаць па конкурсу. Калі раней такая норма была не больш за 3 чалавекі на адно месца, то сёння ўсе жадаючыя могуць паступаць на любы факультэт — конкурс можа быць і 10, і больш чалавек, у залежнасці ад колькасці заяў. Дакументы, як і раней, афармляюцца праз ваенныя камісарыяты. Але прадоўжаны гранічны тэрмін. Грамадзянская моладзь можа падаваць заявы да 1 мая 1996 года, а афіцэры, прапаршчыкі, ваеннаслужачыя-кантрактнікі, ваеннаслужачыя тэрміновай службы — рапарты да 20 красавіка 1996 года. Раней апошнім тэрмінам для ўсіх катэгорый абітурыентаў было 1 сакавіка.

У гэтым годзе грамадзянскай моладзі дазволена па жаданню пражываць у горадзе — у бацькоў, родных, знаёмых — і прыбываць толькі на экзамены ў адпаведнасці з раскладам. Гэта дазволіць, як мне здаецца, не толькі зэканоміць сродкі, але і стварыць спрыяльныя ўмовы для падрыхтоўкі да экзаменаў. Тым, хто не мае жылля ў горадзе, яно будзе прадастаўлена ў акадэміі. Харчавацца абітурыенты будуць за свой кошт, як і будучыя студэнты. Не будзе і лагерных збораў, жыцця ў палатках, строю, як гэта практыкавалася раней. Словам, і будучыя курсанты, і студэнты зараз у роўных умовах.

У адпаведнасці з гэтым загадам адменены месячныя зборы для ваеннаслужачых тэрміновай службы. Камандзіры павінны арганізаваць іх падрыхтоўку да паступлення па месцы службы. Салдаты і сяржанты прыбудуць у акадэмію непасрэдна перад экзаменам, будуць жыць у казарме, харчавацца ў курсанцкай сталоўцы.

Спадзяёмся, што гэтыя меры дазволяць павысіць конкурс і ў выніку — палепшыць якасць адбору курсантаў — будучых афіцэраў.

Больш падрабязна аб парадку і правілах прыёму юнакі змогуць даведацца ў ваенкаматах, а ваеннаслужачыя — непасрэдна ў часцях.

**Генадзь ХУДЗІНСКІ.**

# БАРОНІМ ЕЎРОПУ АД НЕЛЕГАЛАЎ

**На ўчастку адной з застаў Брэсцкага пагранічнага атрада трывожная група на чале з маёрам А. Зарочанцавым затрымала двух грамадзян, як пазней высветлілася — нігерыйцаў.**

Дабіраліся яны быццам бы ў Польшчу да родных. Спачатку спрабавалі зрабіць гэта на цягніку «Масква—Варшава», ад якога, па іх словах, адсталі, затым на прыватным таксі, але таксама няўдала: польскія памежнікі знайшлі ў іх дакументах недахопы. І вось цяпер нігерыйцы мелі намер «узяць» беларуска-польскую мяжу «штурмам».

Усяго ж за першы квартал бягучага года на Дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь было затрымана каля 600 яе парушальнікаў.

**Уладзімір НЕСЦЯРОВІЧ,**
**прэс-цэнтр Пагранічных войскаў РБ.**

# СУПЕРМАРКЕТ І ФРУКТЫ

**Мінеола, нектарын, памелас — гэтыя экзатычныя фрукты з непрывычнымі для нашага слыху назвамі ўбачылі віцябляне на прылаўках толькі што адкрытага ў абласным цэнтры першага супермаркета.**

Калектыў яго здзівіў наведвальнікаў і тым, што ўсе тавары тут можна чапаць рукамі, выбіраючы тыя, што спадабаліся. Пакупнікі ў сваю чаргу здзівілі прадаўцоў тым, што раскупілі літаральна за два дні ўсе гэтыя нятанныя фрукты, а таксама свежыя кавуны і дыні.

Але самае ўражальнае ў новабудоўлі —, гэта, бадай, клопат архітэктараў і заказчыкаў аб'екта аб персанале супермаркета. 120 чалавек могуць карыстацца сваёй уласнай саунай, басейнам, трэнажорнай залай і сталовай.

**Аляксандр ТУЛБУСАЎ.**

# ПРЫВАТНЫ ГАНДАЛЬ ПАГОДЫ НЕ РОБІЦЬ. ЧАМУ?

**За студзень-люты бягучага года аб'ём рознічнага тавараабароту па афіцыйна ўлічаных прадпрыемствах гандлю краіны склаў 91 працэнт да адпаведнага перыяду мінулага года.**

Як вынікае з даных Міністэрства гандлю, праведзены аналіз развіцця рознічнага тавараабароту за студзень-люты па формах уласнасці сведчыць пра больш высокія тэмпы росту на прадпрыемствах гандлю дзяржаўнай формы ўласнасці — 93 працэнты да адпаведнага перыяду мінулага года. Па прадпрыемствах недзяржаўнай формы ўласнасці гэты паказчык складае 90 працэнтаў, у тым ліку ў спажывецкай кааперацыі — 85 працэнтаў.

Таварныя запасы па стану на 01.03.96 складалі 3969,8 млрд. рублёў і забяспечвалі гандаль на 40 дзён, што вышэй за адпаведны перыяд 1995 года (36 дзён).

Зірнуўшы на прыведзеныя лічбы, на першы погляд здаецца, што ёсць усе падставы для аптымізму: гандаль мацнее ўсё больш. Але, зазначым, дзяржаўны гандаль, той, які на працягу дзесяцігоддзяў і так быў манапалістам на рынку краіны. Зразумела, што кволы прыватнік пакуль не можа на роўных спаборнічаць са сваім старэйшым «сабратам». Між іншым, менавіта гэтай «барацьбы» і не хапае нашаму спажыўцу. Спаборніцтва, якое б заваліла прылаўкі таннымі і якаснымі прадуктамі, узняло б на належны ўзровень абслугоўванне і самога пакупніка. Мо тады нарэшце знікла б шэрасць айчынных дзяржаўных гандлёвых кропак і паўкрымінальная зацятасць «камкоў»?..

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

ДЕШЕВО
ситец, бязь,
марля и др. х/б.
Тел.: (0172) 78-15-41

**МЯНЯЮ** 4-пакаёвы
катэдж у двух узроўнях
у г. Лепелі на кватэру
ў Мінску.
Магчымы варыянты.
Тэл. (0172) 2-48-96-81.

*НАРОД, БЕЛАРУСКІ НАРОД!..*

# Беларусы ў Латвіі

**НАПРЫКАНЦЫ мінулага года ў Рызе выйшла ў свет манаграфія старшага навуковага супрацоўніка Інстытута філасофii і сацыялогіі АН Латвіі Ілгі Апіня «Беларусы ў Латвіі». У кнізе грунтоўна даследуецца пытанне аб часе і шляхах з'яўлення беларусаў у Латвіі, аб іх колькасным, сацыяльна-прафесіянальным і канфесіянальным саставе, гаспадарчай дзейнасці і духоўнай культуры, узаемаадносінах з навакольным насельніцтвам, гістарычным развіцці і сучасным становішчы нашых суайчыннікаў у суседняй краіне.**

**20 сакавіка г. г. у Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі па ініцыятыве таварыства «Беларусь—Латвія» адбылася прэзентацыя кнігі з удзелам Ілгі Апіня. Прапануем увазе чытача скарочаны пераклад на беларускую мову аўтарскага пасляслоўя да манаграфіі «Беларусы ў Латвіі».**

Беларусы і латышы з'яўляюцца блізкімі суседзямі і маюць векавыя традыцыі зносінаў аднаго з другім. Беларусы Латвіі — традыцыйная гістарычная нацыянальная група, што здаўна пражывае ва ўсходняй частцы Латвіі — Латгале. Латвійскія гісторыкі, этнографы М. Скуеніек, Б. Брэжга, А. Заварына, Х. Строд і іншыя, якія даследавалі ў сваіх працах этнічную структуру Латвіі і гісторыю Латгале, звярталіся да гісторыі з'яўлення беларусаў, да тэмы ўзаемадачыненняў латышоў і беларусаў. Статыстычныя звесткі 9 перапісаў (з 1897-га па 1989 г.), пракаменціраваныя ў працах М. Скуеніка, П. Звідрыня, І. Межа, дазваляюць меркаваць аб змяненні колькаснага саставу беларусаў у Латвіі за апошнія 100 гадоў.

Аб жыцці беларусаў у гады незалежнай латвійскай дзяржавы сведчаць багатыя крыніцы: мясцовы друк на беларускай мове, кнігі і брашуры вядомага беларускага грамадскага дзеяча К. Езавітава. Сацыяльна-палітычны партрэт сучаснага беларускага насельніцтва дапамагаюць намаляваць працы беларускіх аўтараў, апублікаваныя ў 1960—1980 гг., а таксама праведзенае маскоўскімі этнасацыёлагамі абследаванне беларусаў Латгале ў канцы 1980-х гг.

Агульным для абодвух народаў быў водны шлях да Балтыйскага мора, адна лёсавызначальная рака — Даўгава (Дзвіна). Адсюль і адзначаная многімі даследчыкамі духоўная блізкасць латышоў Латгале і беларусаў, якая адлюстравалася ў дахрысціянскай народнай культуры: міфалогіі, фальклоры. Пра гэта пісаў вядомы латышскі лінгвіст Ян Эндзелін у сваіх «Славяна-балтыйскіх эцюдах», выдадзеных у Харкаве ў 1911 г. Агульныя асаблівасці народнай музычнай традыцыі адзначаў латышскі кампазітар Андрэй Юр'ян. Сучасны музыказнаўца Макс Гольдзін канстатаваў падобныя рысы мелодый і рытмікі старажытных народных песень на тэрыторыі Літвы, Латгале, Полацка, Маладзечна.

Гісторыя апошніх стагоддзяў распарадзілася такім чынам, што менавіта латышы і беларусы Латгале аказаліся ў адной сацыяльнай нішы. Тыя і другія былі сялянамі, занятымі пераважна сельскагаспадарчай працай, падвяргаліся аднолькаваму сацыяльнаму прыгнёту з боку польскіх паноў. Небяспека апалячвання або русіфікацыі аднолькава пагражала латышам і беларусам. У гарадах Латгале яны вельмі доўга не былі прадстаўленыя. Там жылі тыя, хто меў іншы сацыяльны статус — палякі, яўрэі, рускія.

Этнакультурнае асяроддзе ўсходняй Латвіі — Латгале, стракаты этнічны састаў і наяўнасць некалькіх канфесій наклалі яркі адбітак на самасвядомасць і ўзаемаадносіны прадстаўнікоў усіх этнічных груп гэтага рэгіёна, размешчанага на стыку балтыйскага і славянскага арэалаў. Адбывалася ўзаемная асіміляцыя ва ўсіх кірунках, ход якой часта вызначалі не этнічныя перавагі, а гістарычныя перыпетыі, адміністрацыйны націск, канфесіянальная прыналежнасць.

Пра поспехі культурна-асветніцкай дзейнасці беларусаў у Латвійскай Рэспубліцы 1920—1930-х гг. красамоўна гавораць наступныя факты. Раней на тэрыторыі Латгале (да 1917 г. яна адміністрацыйна ўваходзіла ў састаў Віцебскай губерні), як і ў самой Беларусі, ніколі не было беларускіх школ. З 1921 г. у Латвіі сталі ствараццa такія школы. Іх было каля 40 (называюцца розныя лічбы). Да таго ж функцыянавалі дзве беларускія гімназіі — у Лудзе і Даўгаўпілсе. У гімназіях, акрамя вядомых агульнаадукацыйных прадметаў, латышскай мовы, беларускай мовы і літаратуры, выкладалі латынь, псіхалогію, уводзіны ў філасофію і логіку. Дзейнічалі двухгадовыя настаўніцкія курсы для настаўнікаў беларускіх школ.

Беларуская інтэлігенцыя змагла стварыць цэлы шэраг культурна-асветных, грамадскіх і нават гаспадарчых структур (кааператывы), якія актывізавалі беларускае насельніцтва Латгале. Самым першым было таварыства «Бацькаўшчына» ў Даўгаўпілсе, створанае ў 1921 г. настаўнікам Янам Харлапам пры падтрымцы Яніса Райніса. Затым узнікалі іншыя таварыствы: «Беларуская хатка», «Рунь», «Араты», аб'яднанне беларускай моладзі. Дзейнічалі беларускія бібліятэкі, дзіцячыя садкі пры школах, беларускае выдавецтва. Можна гаварыць аб добра наладжанай выдавецкай справе — выходзілі кнігі К. Езавітава і іншых аўтараў, газета «Голас беларуса», часопісы «Беларускае жыццё», «Школа і жыццё».

На базе драматычных гурткоў пры летніх курсах беларускіх настаўнікаў выраслі свае акцёры і рэжысёры. У 1928 г. дзейнічалі ўжо два беларускія нацыянальныя тэатры — у Рызе і Даўгаўпілсе.

Галоўным напрамкам жыцця беларусаў Латвіі ў 1920—1930-х гг. было яркае нацыянальнае адраджэнне, чаму садзейнічалі рэальна існуючая ў краіне мадэль культурна-нацыянальнай аўтаноміі, дзяржаўныя субсідыі, падтрымка з боку мясцовых уладаў.

Трэба адзначыць, што адносна спрыяльнае становішча беларускай нацыянальнай культуры ў 1920-я гады (так званы працэс беларусізацыі) таксама пазітыўна ўплываў на жыццё беларусаў у незалежнай Латвіі. Усё гэта стымулявала ініцыятыву нацыянальнай беларускай інтэлігенцыі.

Сітуацыю рэзка змянілі падзеі сусветнага маштаба: умацаванне таталітарных сістэм у Германіі і СССР, узмацненне жорсткасці палітычных рэжымаў ва ўсіх еўрапейскіх краінах, у тым ліку і ў Латвіі, другая сусветная вайна і акупацыя балтыйскіх краін.

Спадчына савецкага рэжыму: амаль двухразовае павелічэнне колькасці беларусаў у Латвіі — да 120 тысяч — у 1989 г. Яны сталі трэцяй па велічыні нацыянальнай абшчынай. (...) Да пачатку 1995 г. у Латвіі пражывалі 108.664 беларусы. У 1990-я гг. намецілася тэндэнцыя вяртання беларусаў на сваю этнічную радзіму, але яе нельга назваць масавай, да таго ж працэс рэпатрыяцыі замарудзіўся. У 1991 г. з Латвіі выехалі 1603 беларусы, у 1992-м — 7070, у 1993-м — 3681 чал., гэта значыць за тры гады — каля 12 тыс., што адбілася на статыстычных звестках аб агульнай колькасці беларусаў у Латвіі.

У дадатак да сацыяльнага партрэта беларуса ў Латвіі можна адзначыць асаблівасць адукацыйнага ўзроўню. У 1989 г. на 100 тысяч беларусаў старэй за 15 гадоў вышэйшую адукацыю мелі 8,6 тыс. чал. (менш, чым у яўрэяў, украінцаў, латышоў). Найбольш буйная група латвійскіх беларусаў мела сярэднюю спецыяльную і агульную сярэднюю адукацыю. У сярэдзіне 1990-х гг. намеціўся працэс перапрафілявання беларусаў прымяняльна да ўмоў рыначнай эканомікі. Найбольш яркі прыклад — стварэнне суполкі беларускіх прадпрымальнікаў — гандлёвага дома «Беларусь» (прэзідэнт Янка Кабановіч).

У дэмаграфічным плане беларусы Латвіі з'яўляюцца найбольш маладой па ўзросту нацыянальнай групай. Калі сярэдні ўзровень працаздольнасці ў Латвіі складае 56,5 працэнта, то ў беларусаў гэты паказчык — 67 працэнтаў. Пры заключэнні шлюбаў беларусы не аддаюць перавагі асобам сваёй нацыянальнасці. У выпадках змешаных шлюбаў вельмі схільныя да этнічнай асіміляцыі. Пра гэта гавораць і звесткі аб адносінах да сваёй роднай мовы... У 1990-я гг., на фоне агульнага пагаршэння паказчыкаў нараджальнасці ў Латвіі (як, зрэшты, і ў Эстоніі, Літве, Беларусі), найгоршыя паказчыкі былі ў прадстаўнікоў усходнеславянскіх груп Латвіі. З 1991 г. беларусы радзей жэняцца і часцей разводзяцца. У 1992 г. былі 83 разводы на 100 шлюбаў. У гэтыя ж гады нараджальнасць у беларускіх сем'ях стала мінусавай, гэта значыць пачалося натуральнае скарачэнне колькасці беларусаў.

Гісторыкі і этнографы даўно адзначалі такія асаблівасці беларускай нацыянальнай самасвядомасці, як яе лабільнасць, залежнасць ад адміністрацыйнага або царкоўнага ўплыву, схільнасць да этнічнай асіміляцыі. Адсюль — рэзкія перапады колькасці беларусаў у 1920—1930-я гг. не толькі ў цэлым па Латвіі, але і ў межах асобных валасцей, калі на працягу кароткага часу, за 5—10 гадоў, частка беларусаў аказвалася сярод рускіх, палякаў ці латышоў. Часта накірунак асіміляцыйных працэсаў вызначаўся канфесіянальнай прыналежнасцю, якой надавалася большае значэнне, чым этнічнай. Так, у канцы 1980-х гг. 10—12 працэнтаў абследаваных беларусаў Латгале не цікавіліся нацыянальнай прыналежнасцю бліжэйшых суседзяў ці калег па працы.

Стан нацыянальнай свядомасці беларусаў можна вытлумачыць. Ён звязаны з незвычайным, трагічным лёсам народа, у якога былі адабраны гістарычная памяць і родная мова.

Нягледзячы на адзначаныя асаблівасці і спецыфічныя цяжкасці, беларусы Латвіі праявілі сілу і здольнасць да нацыянальнага адраджэння. Гэта звязана і з тым, што ў асяроддзі беларусаў Латвіі ёсць гістарычнае ядро, ёсць карані ў Латгале і традыцыі культурнай дзейнасці ў 1920—1930-я гг. Найбольшую актыўнасць праяўляюць беларусы Рыгі, якія стварылі два нацыянальныя таварыствы — «Світанак» і «Прамень». Пры апошнім функцыянуе фальклорны ансамбль «Надзея». З пачатку 1995 г. выходзіць штомесячная газета «Прамень». Крокам наперад у захаванні беларускай дыяспары ў Латвіі з'яўляецца факт стварэння ў верасні 1994 г. беларускага класа дзённай школы. У Даўгаўпілсе таксама маецца беларуская суполка «Уздым», ёсць намер і там стварыць беларускую школу. Можна сцвярджаць, што ў Латвіі складваецца інфраструктура беларускай культуры са сваімі цэнтрамі, друкам, школай, а таксама адраджаецца беларускае асяроддзе ў Рызе, дзе трывалае месца пачынае займаць беларуская мова.

**Ілга АПІНЯ,**
**доктар навук, навуковы супрацоўнік Інстытута філасофіі і сацыялогіі АН Латвіі.**

## ЦЫТАТА РУБРЫКІ:

***«Над беларусамі навісла рэальная пагроза поўнай дэнацыяналізацыі.***

***У гэтых абставінах удзельнікі канферэнцыі «Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі»:***

***1. Выступаюць супраць рэвізіі канстытуцыйных палажэнняў і заканадаўства аб мовах.***

***2. Патрабуюць ад усіх службовых асоб строга выконваць дзеючае заканадаўства аб мовах.***

***3. Заклікаюць дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь стварыць адпаведныя заканадаўчыя механізмы для рэалізацыі «Закона аб мовах» і падтрымкі беларускай культуры, адукацыі і сродкаў масавай інфармацыі.***

***4. Заклікаюць усіх прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі прыкласці ўсе магчымыя намаганні для захавання, узбагачэння і пашырэння роднай мовы — стрыжня і апірышча беларускай культуры і самасвядомасці нашага народа».***

*(З рэзалюцыі нацыянальнай навуковай канферэнцыі «Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі: гістарычны, палітычны і лінгвістычны аспекты» (Мінск, 30 сакавіка 1996 г.).*

*СВЯТА Ў ВАШУ ХАТУ*

# Вялікі дзень Надзеі

**Вялікдзень (Вялічка, Вялікдзень, Пасха) увесь праваслаўны свет лічыць святам святаў, урачыстасцю з урачыстасцей. Сёлета адзначаецца яно 14 красавіка. Гістарычныя карані свята ідуць з далёкай мінуўшчыны. Калісьці з гэтага дня пачынаўся год. Пазней, з узнікненнем хрысціянства, Вялікдзень стаў рухомым святам, днём уваскрэсення Ісуса Хрыста.**

Перадвелікодны тыдзень носіць яшчэ і назву Чыстага, таму што ў гэты час людзі імкнуцца да асаблівага ачышчэння, не толькі фізічнага (мыюць хаты, прыбіраюць двары, паляць лазні, посцяць), але і маральнага — не сварацца, прабачаюць адзін аднаму крыўды. Асаблівае месца займае Чысты чацвер, з якім звязана мноства звычаяў і вераванняў. «Чысты чацвер вулкі чысціць, дваркі мяце, слядкі кладзе... к святому Вялічку». У чацвер нельга нікому нічога даваць, асабліва агню, бо лічыцца, што той, хто просіць, прыходзіць са злымі намерамі. Пад страху кладуць хлеб, соль, мыла. З тым хлебам выганяюць потым жывёлу на пашу, соллю карыстаюцца як сродкам ад сурокаў, а мылам да ўсходу сонца мыюцца ў лазні. Дарэчы, у некаторых мясцінах абмываюцца вадой, у якую кінута серабро, бо лічыцца, што яно, па-першае, ачысціць ваду, па-другое, надасць моцы і прыгажосці. Пад вечар рыхтуюць дванаццаць посных страў, памінаюць памёрлых родзічаў.

У Вялікую суботу пякуць булкі, смажаць парасят, фарбуюць яйкі. У асноўным усе фарбуюць яйкі шалупіннем цыбулі. У апошні час з'явіліся Велікодныя наборы, якія таксама можна выкарыстаць для гэтай мэты.

У Расіі на аснове ўпрыгажэння велікодных яек, замяніўшы птушыныя на драўляныя, адкрылася цэлая школа майстроў: яйкі распісвалі золатам, аздаблялі каштоўнымі камянямі, стваралі непаўторныя творы мастацтва.

У некаторых вёсках выконваўся цікавы абрад: дванаццаць дзяўчат апраналі белыя кашулі і сахой праводзілі баразну вакол сяла, як бы адмяжоўваючыся ад усяго злога на ўвесь год.

Лічба «дванаццаць» — сімвал, які нагадвае колькасць апосталаў Хрыста, таму хрысціяне звязваюць з ёю ўсе дзеянні на свята.

Ноч між краснай суботай і Вялікаднем — «усяночная». Усе абавязкова чакаюць поўначы, каб пачуць званы. У царкве свецяць усё, што будзе знаходзіцца на Велікодным стале. Раніцай усе сочаць, як «грае» сонейка, потым гуляюць «у біткі», гушкаюцца на арэлях, водзяць карагоды...

*Старым і малым яечкі качаць,*
*Яечкі качаць, святца праважаць.*
*А гэта святца адзін разочак у гадочак.*

Цэнтральнае месца ў Велікоднай абраднасці займае яйка, якое стала свайго роду сімвалам свята. Асвячонае яйка елі першым прыйшоўшы з царквы. Яго клалі ў ваду для ранішняга абмывання, каб, як гавораць на Палессі, быць прыгожым і любым. Рускія і ўкраінцы лічылі яго сродкам ад пажару: абягалі з ім вакол ахопленага полымем месца тры разы і кідалі яго ў цэнтр. Велікоднае яйка клалі ў пасудзіну з зернем для будучага ўраджаю. Некаторыя гаспадары яйкам гладзілі кароў, коней, свіней, каб былі гладкімі і тлустымі. Магічную моц велікоднаму яйку прыпісвалі і іншыя народы: балгары выкарыстоўвалі ад хвароб і непагоды, румыны мыліся з імі і г. д.

Свята Светлага Уваскрэсення Хрыста прысвячаецца дабрадзейным справам. Раней княства і парафіяне ездзілі па турмах, бальніцах, раздаючы адзенне, грошы, ежу. Царкоўнікі хадзілі па хатах, асвячалі гаспадарку, услаўляючы Госпада і яго сына.

На Вялікдзень у многіх мясцінах нашага краю, як і на Ражство, хадзілі спевакі з велічальнымі песнямі («валачобнікі валачыліся»). Яны жадалі гаспадарам і іх сем'ям шчасця, добрага ўраджаю, пладнасці жывёле.

*Добра шчасця вам нажываць!*
*Адарыце ж нас, не марыце ж нас,*
*Хоць па яечку ды па цэламу,*
*Хоць па стаканчыку ды па поўнаму.*

Іх адорвалі «пасхамі», кілбасамі і іншымі мяснымі прысмакамі, абавязкова — чырвонымі яйкамі.

Верылі, што ад Вялікадня да Ушэсця Ісус ходзіць па свеце ў выглядзе жабрака, таму нельга адмаўляць тым, хто просіць міласціну.

Вялікдзень, вядома, адно са святаў, якое немагчыма забараніць. Яго адзначалі далёкія і блізкія нашы продкі, яго будуць адзначаць нашы дзеці і ўнукі. Некалі нават атэісты шапталі, абменьваючыся прывітаннямі: «Хрыстос уваскрэс!»— «Сапраўды ўваскрэс!»

Гэта свята ўваскрэсення пакутніка Ісуса, сына Божага, які быў пасланы грэшнаму людскому свету дзеля яго выратавання.

**Ганна ГАЎРЫЛЬЧЫК.**




## НЯХАЙ ГУЧЫЦЬ ЗА КРАТАМІ РАТУЮЧАЕ СЛОВА

У Мінскай епархіі адбылася сустрэча царкоўнаслужыцеляў, супрацоўнікаў МУС Беларусі і прадстаўнікоў прэсы

— Нагода, з якой мы сустрэліся, — выпуск першага спецыяльнага нумара газеты «Царкоўнае слова» для тых, хто знаходзіцца ў зняволенні, адбывае пакаранне за ўчыненае злачынства, — сказаў, адкрываючы сустрэчу, мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі. — З нашых пазіцый такія людзі, якія трапілі ў бяду, патрабуюць да сябе асаблівай увагі і асаблівай хрысціянскай любові. Паколькі любоў — галоўная сіла, якая дазваляе вярнуць заблуднага на сапраўдны шлях. Царква, выкарыстоўваючы магчымасці, што сёння з'явіліся, актывізавала сваю сувязь са зняволеным.

На гэтай сустрэчы прагучала таксама выступленне айца Алексія — рэдактара газеты «Царкоўнае слова». Ён нагадаў, што клопат аб лёсе зняволеных спрадвеку быў уласцівы праваслаўю. У Беларускім экзархаце цяпер зноў адрадзілася духоўная дапамога вязням. У спецвыпуску газеты самі зняволеныя расказваюць пра тое, што дае ім вера. Такі спецвыпуск стаў першым выданнем у Рускай праваслаўнай царкве.

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

**НА ЗДЫМКУ**: у час прадстаўлення грамадскасці першага нумара спецвыпуску.

**11 КРАСАВІКА — МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ ВЫЗВАЛЕННЯ ВЯЗНЯЎ ФАШЫСЦКІХ КАНЦЛАГЕРАЎ**

# «ГІСТОРЫЯ, ЯКАЯ ПАЎТАРАЕЦЦА АДЗІН РАЗ У МІЛЬЁН ГАДОЎ...»

УЗБЯРЭЖЖА Рэйна каля Майнца, а таксама яго наваколля ды і ўвогуле ўсёй зямлі Рэйнлянд-Пфальц Заходняй Германіі густа пакрыта прадпрыемствамі па выпуску рознай хімічнай прадукцыі. У гады другой сусветнай вайны яны мелі стратэгічна важнае значэнне для гітлераўскай арміі. Для іх абароны было пабудавана шмат аэрадромаў, знаходзілася таксама нямала ахоўных вайсковых злучэнняў. Не выпадкова менавіта тут была створана фашыстамі вялікая колькасць канцлагераў, бальніц, дзіцячых дамоў, дзе знаходзіліся сілай адарваныя ад бацькоў 10—15-гадовыя хлопчыкі і дзяўчынкі, прывезеныя з былога СССР, Польшчы, Бельгіі, Францыі, Югаславіі, Грэцыі і іншых паняволеных гітлераўцамі краін Еўропы. Гэты «жывы тавар» выкарыстоўваўся ў асноўным для медыцынскіх доследаў. Дзецям спецыяльна (асабіста ў мяне і ў сям'і майго брата Барыса ёсць пра гэта адпаведныя дакументы) прывіваліся цяжкія захворванні, каб выпрабоўваць новыя лекі. Звычайна пасля гэтага мала хто выжываў. Мноства хлопчыкаў і дзяўчынак (а ў 1943-м мне было толькі 4 гады) паміралі ад празмерных дозаў ўзятай крыві, якая ў вялікай колькасці патрабавалася кожны дзень для параненых нямецкіх лётчыкаў...

На зямлі Рэйнлянд-Пфальц нямала могілак, дзе пахаваны тысячы нашых суайчыннікаў, а таксама грамадзян іншых нацыянальнасцей (з яўрэйскіх дзяцей фашысты не бралі крыві) самага рознага ўзросту і полу...

У час наведвання могілак, напрыклад, у Кельстэрбаху, дзе пахаваны каля дзесяці тысяч дзяцей з былога СССР, настаўнік мясцовай школы Геральд Фрэйлінг сказаў нам, што не так даўно з ім здарылася гісторыя, якая паўтараецца адзін раз у мільён гадоў...

Геральду Фрэйлінгу давялося быць у Варшаве на кангрэсе па інтэграцыі еўрапейскага кантынента. На адной з сустрэч ён выступіў перад ветэранамі — удзельнікамі другой сусветнай вайны. У час гэтага выступлення Геральд Фрэйлінг назваў імёны дзяцей з Варшавы, якія пахаваны на могілках Кельстэрбаха. Раптам адзін з пажылых палякаў літаральна сарваўся са свайго месца і закрычаў: «Улада, пра якую вы гаворыце, — мая дачка!»... Тут жа высветлілася, што ў час вайны фашысты адабралі яго дачку Уладу і завезлі ў Кельстэрбах. Ёй ішоў тады толькі другі месяц. У тым жа 1943 годзе яна памёрла. Сэрца Улады не вытрымала па прычыне вялікай дозы ўзятай крыві... Сястра Улады, якой цудам удалося выжыць, прыехала ў Кельстэрбах і прывезла з сабой мармуровую пліту з надпісам: «Тут пахавана ў гады другой сусветнай вайны Улада з Варшавы, замардаваная ў 2 месяцы жыцця фашыстамі...» Побач з гэтай мурмуровай плітой — вялізны, высечаны з чырвонага каменю-скалы крыж. Вакол пляцоўка, лес...

— Ці часта тут бываюць людзі з былога Савецкага Саюза? — запытаўся я ў Геральда Фрэйлінга.

Ён падумаў і сказаў: «Не памятаю... Мабыць, вы першыя. Не забывайцеся, што гэта тэрыторыя не Усходняй, а Заходняй Германіі... Ніякіх сувязей з былым СССР у нас не было... Цяпер наступіў новы час, і мы верым, што тут будзе шмат людзей з Беларусі, Украіны, Расіі...»

Школьнікі пад кіраўніцтвам Геральда Фрэйлінга старанна даглядаюць магілы нявольнікаў. Кожнай вясной садзяць шмат кветак, паліваюць іх, скошваюць траву, падкормліваюць яе ўгнаеннямі. Яны таксама зрабілі і працягваюць рабіць зараз вялікую справу па выяўленню тых, хто назаўсёды застаўся ў зямлі Кельстэрбаха...

Роўнымі радамі ляжаць у шафах школы тоўстыя тамы кніг, дзе запісаны тысячы імён. Гартаю старонкі, а вочы заліваюць слёзы. Там — прозвішчы загубленых хлопчыкаў і дзяўчынак, якім было толькі 3—5 гадоў... Прозвішчы дзяцей з Мінска, Гомеля, Брэста, Мазыра... Іван Малоўскі — нарадзіўся 15.1.1941 г., памёр 27.4.1944 г.; Марыя Кавалевіч — нарадзілася 7.8.1939 г., памерла 12.3.1943... Тысячы імён. Чые гэта дзеці? Можа, і сёння жывуць іх маці, можа, і сёння яны чакаюць сваіх дзяцей, спадзяюцца, што яны вернуцца калі-небудзь дадому...

Пакідаючы могілкі, мы паклалі ля крыжа жывыя кветкі і кавалак нарачанскага хлеба — напамін мёртвым пра нашу родную Беларусь....

У нашай групе 9 чалавек — столькі засталося ў жывых пасля цяжкіх, недзіцячых пакут. Мы былі запрошаны наведваць зямлю Рэйнлянд-Пфальц обербургамістрам Германіі Гармутам Веелем, а таксама створаным там пад патранажам міністра-прэзідэнта Курта Бека камітэтам «Майнц—Мінск». Нам давялося шмат дзе пабываць, многа цікавага пабачыць, запомніліся прыёмы ў обер- і кляйнэбургамістраў. Але могілкі нашых суайчыннікаў мы наведвалі перш за ўсё. І кожны раз такое наведванне — цяжкае душэўнае выпрабаванне, успаміны...

У лесе каля Майнца, галоўнага горада зямлі Рэйнлянд-Пфальц, пахаваны 33 тысячы чалавек. Грамадзяне Майнца за свой кошт пабудавалі невялічкі мемарыяльны комплекс. Стаіць агромністая пліта з надпісам: «Вечная памяць змагарам за свабоду». Ад пліты — сцяжынка. Паабапал яе — роўныя рады: І-ы..., 20-ы..., 54-ы... Яны цягнуцца на некалькі соцень метраў. У гэтых радах — астанкі людзей. Хто тут пахаваны з нашых суайчыннікаў? Колькі іх?..

Фрау Лота і пан Ганс Мундшэнкі, Ніна Штэйн (яна родам з Брэстчыны, жыве ў Майнцы), а таксама мільянер Вілі Кёлер, якія былі разам з намі на могілках і таксама ўскладалі жывыя кветкі, папярэджвалі, што лічба пахаваных прыкладная, іх намнога больш, чым напісана, і ляжаць тут у асноўным дзеці з былога Савецкага Саюза.

Мы прывезлі з Мінска тры бярозкі і адзін дубок. Кіраўніцтва Зямлі Рэйнлянд-Пфальц дазволіла пасадзіць іх тут, на могілках. Няхай растуць і хоць гэтым напамінаюць нашым суайчыннікам пра родны кут...

**Іван САЧАНКА,**
**старшыня Мінскага гарадскога аб'яднання былых малалетніх вязняў фашызму.**
220039. Мінск,
Варанянскага 3, кв. 107
Тэл. 25-89-00 хат.
25-51-86 раб.




БЕЛАРУСКІ ФОНД СОРАСА
**абвяшчае конкурс**
## «Вучнёўскія газеты і часопісы»
***ў межах нацыянальнай праграмы «Адукацыя»***

**Мэта конкурсу** - *спрыянне развіццю вучнёўскай самастойнай творчасці праз выпуск незалежных вучнёўскіх школьных выданняў.*

**Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца** школьныя рэдакцыйныя калектывы, якія выпускаюць газеты альбо часопісы:
- разлічаныя на вучнёўскую аўдыторыю
- з перыядычнасцю не менш чым чатыры разы ў навучальны год.

У конкурсе могуць удзельнічаць як друкаваныя, так і рукапісныя выданні - незалежна ад іх накладу.
Заяўка на конкурс ўяўляе сабой апісанне мэтаў і задач выдання, перспектыўна-тэматычны план выдання на 1996-1997 навучальны год.
***Да заяўкі неабходна прыкласці два лепшых выпускі выдання.***

Рэдакцыі выданняў, якія атрымаюць перамогу ў конкурсе, будуць узнагароджаны камплектамі абсталявання.

**1 месца:**
Камп'ютар
Лазерны прынтар
Малы ксеракс
Папера

**2 месца:**
Камп'ютар
Лазерны прынтар
Папера

**3 месца:**
Камп'ютар
Матрычны прынтар
Папера

**Заахвочвальныя прэміі**

***«За арыгінальнасць ідэі»*** - дыктафон
***«За лепшае мастацкае афармленне»*** - фотаапарат
***«За лепшы змест»*** - дыктафон
***«За лепшы макет выдання»*** - набор дыскет

**Апошні тэрмін падачы заявак на конкурс - 17 мая 1996 года.**

Заяўкі дасылаюцца на адрас:
220027 г.Мінск, пр.Ф.Скарыны, 65, корп.11а БДПА, пак. 517а, Беларускі Фонд Сораса,
**з пазнакай «Конкурс вучнёўскіх газет».**

**З пытаннямі звяртайцеся па тэлефонах:**
**(0172) 32-77-13, 32-80-92, 32-70-64**
**39-91-21, 39-93-46**

© Гольфстрим 040


## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ
**у камерцыйных банках на 10 красавіка 1996 г.**

| Назва банка | Долар ЗША Купля | Долар ЗША Продаж | Нямецкая марка Купля | Нямецкая марка Продаж | Расійскі рубель Купля | Расійскі рубель Продаж | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Белбізнесбанк (гал. аперац. упраўл.) | 12900 | 13100 | 8600 | 8900 | 2.50 | 2.70 | 769-533 |
| Белбізнесбанк (гар. дыр.) | 12950 | 13100 | 8600 | 8900 | 2.50 | 2.65 | 271-906 067 |
| ФК «Вераніка»* (за расійскія рублі) | 13000 4950 | 13100 5030 | 8800 | 9000 | 2.60 | 2.70 | 531-504 |
| Банк «INKO» (за расійскія рублі) | 13010 4950 | 13100 5077 | 8600 | 8950 | 2.58 | 2.66 | 238-020 |
| Мінскі транзітны банк* | 12950 | 13100 | 8500 | 8900 | 2.50 | 2.70 | 298-174 |
| Ф-л 0104 АКБ «Мінскі транзітны банк» | 12900 | 13100 | 8650 | 8800 | 2.50 | 2.65 | 372-825 |
| Народны банк | 12950 | 13100 | 8750 | 8850 | 2.54 | 2.64 | 238-610 |
| «Алімп» | 12800 | 13100 | 8500 | 8900 | 2.55 | 2.70 | 589-649 |
| Ф-л № 1 АКБ «Алімп» | 13000 | 13100 | 8650 | 8800 | 2.55 | 2.65 | 291-646 067 |
| Магазін «Панарама», фірмы «Энергія ГмбХ» | 12850 | 13100 | 8550 | 9100 | 2.52 | 2.70 | 265-612 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безн. разл.) | 11900 | | 8021.57 | | 2.42 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 4894 | | 3203.41 | | 100 бел.р. 36.80 | | |

* — Аперацыя з валютай звыш 1000 $ праводзіцца на дагаворных умовах

**Агенцтва Граўцова.**

# «КЕНТАЎР»

**ЗАКРЫТАЕ АКЦЫЯНЕРНАЕ СТРАХАВОЕ ТАВАРЫСТВА «КЕНТАЎР»**

## Справаздача аб прыбытках і стратах за 1995 год

**Прыбытак** — млн. руб.

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Страхавыя ўзносы па прамому страхаванню | 11138,2 |
| 2. | Страхавыя ўзносы, атрыманыя ад перастрахавачных аперацый | 1415,7 |
| 3. | Даходы ад пазарэалізацыйных аперацый | 1887,8 |
| 4. | Іншыя даходы | 0,9 |
| | **Усяго даходаў** | **14442,6** |
| 5. | Страты | 1149,9 |
| | **Усяго** | **15592,5** |

**Страты (расходы)** — млн. руб.

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Выплата страхавога пакрыцця і страхавых сум | 2389,8 |
| 2. | Расходы на вядзенне справы | 4689,0 |
| 3. | Адлічэнні ў рэзерв па накапляльных і рызыкоўных відах страхавання | 5962,5 |
| 4. | Заплачаныя страхавыя ўзносы па рызыках у перастрахаванне | 2199,4 |
| 5. | Адлічэнні ў фонд папераджальных мерапрыемстваў | - |
| 6. | Іншыя расходы | 351,8 |
| | **Усяго расходаў** | **15592,5** |
| 7. | Прыбытак | - |
| | **Усяго** | **15592,5** |

## Баланс на 1 студзеня 1996 года

**Актыў** — млн. руб.

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Разліковы рахунак | 430,7 |
| 2. | Валютны рахунак | 210,8 |
| 3. | Рахункі ў банку па сродках рэзерваў плацяжоў | 1821,3 |
| 4. | Каса | 2,7 |
| 5. | Асноўныя сродкі і іншыя доўгатэрміновыя актывы | 2661,7 |
| 6. | Дэбіторы | 483,5 |
| 7. | Іншыя актывы | 268,9 |
| | **Баланс** | **5879,9** |

**Пасіў**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Статутны капітал | 5,0 |
| 2. | Рэзерв па рызыкоўных відах страхавання | 6097,9 |
| 3. | Рэзерв па накапляльных відах страхавання | 1672,7 |
| 4. | Фонды і рэзервы спецыяльнага прызначэння | 2175,9 |
| 5. | Сродкі ў рахунках | 310,8 |
| 6. | Іншыя пасівы | - 4382,7 |
| | **Баланс** | **5879,6** |

***Дакладнасць даных, уключаных у гадавы баланс і справаздачу аб прыбытках і стратах, пацверджана аўдытарскім заключэннем ад 27 сакавіка 1996 года.***

# УЗДОЎЖ ПА НЯМІЗЕ ПРАМА ВА «ЎСХОДНІ БРУСЕЛЬ»?

**Чым бы вы ні займаліся, як бы ні былі далёкія ад праблем паліўна-энергетычнага комплексу, «кардыяграма» поспехаў вашай справы аб'ектыўна залежыць ад стану энергарынку рэспублікі. Паміраючыя заводы, гэтак жа як і ззяючыя сярод белага дня ліхтары на Нямізе, наводзяць на сумны роздум. Дастаткова сказаць, што ўсе мы сталі б, як мінімум, утрая багацейшымі, калі б нам удалося «ўсяго толькі» падцягнуць сваё энергаспажыванне да заходніх узораў...**

Перспектывы вашага бізнесу ў «энергаасяроддзі» Беларусі «падсвечваюць» матэрыялы вялізнага дасье, апублікаванага ў трэцім нумары часопіса «Дело (Восток+Запад)». Бліжэйшая і аддаленая будучыня «рынку цяпла і святла» рэспублікі, прагноз паводзінаў расійскіх пастаўшчыкоў энерганосьбітаў, дзейнасць у Беларусі нафтавых кампаній, варыянты прыватызацыі прадпрыемстваў ПЭКа — такія тэмы выпуску. Акрамя таго, з сакавіцкага нумара часопіса вы даведаецеся ад міністра замежных спраў РБ Уладзіміра Сянько, пры якіх умовах Мінск зможа ўзяць на сябе ролю «ўсходняга Бруселя агульнаеўрапейскага дома», а ад спецыяліста па нерухомасці — калі ў сталіцы рэспублікі з'явіцца паўнацэнны дзелавы city.

У новым раздзеле «Дело+Идея» прадстаўлены бізнес-тэхналогіі, якімі змогуць карыстацца не толькі пачынаючыя прадпрымальнікі, але і тыя, хто шукае новыя спосабы прыкладання свайго капіталу.

«Далікатнаму, але стойкаму» рамяству гутнікаў — беларускіх шкларобаў — прысвечаны гістарычны нарыс на старонках «Дела» № 3...

Па пытаннях падпіскі і набыцця часопіса можна звяртацца ў рэдакцыю па тэл.: **(017) 2-23-52-09.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|---|
| **Мінск** | – | 6.19 | 20.03 | 13.44 |
| **Віцебск** | – | 6.07 | 19.55 | 13.48 |
| **Магілёў** | – | 6.08 | 19.52 | 13.43 |
| **Гомель** | – | 6.06 | 19.48 | 13.42 |
| **Гродна** | – | 6.32 | 20.19 | 13.47 |
| **Брэст** | – | 6.38 | 20.15 | 13.37 |

### МЕСЯЦ

**Апошняя квадра 11 красавіка.**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Марка, Кірыла, Іаана. К. Льва, Піліпа.**

**Неспрыяльныя дні ў красавіку 4, 6, 15, 20, 23, 27, 29.**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, па паўночнай палавіне часам невялікія ападкі, пераважна мокры снег. Тэмпература паветра ў Віцебску — 5—7, Гродне, Мінску — 7—9, Магілёве — 8—10,Брэсце, Гомелі — 11—13 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак будзе воблачна з праясненнямі, часам невялікія ападкі. Тэмпература паветра ўначы — 0—5 градусаў марозу, удзень — 1—6, 12-га па поўдню да 12 градусаў цяпла.

### Медыцынскі прагноз надвор'я на 11 красавіка

Надвор'е будзе вызначацца полем паніжанага атмасфернага ціску. Утрыманне кіслароду ў паветры нязначна панізіцца. У такіх умовах у большасці метэазалежных хворых паяўленне выражаных метэапатычных рэакцый малаверагоднае. Магчыма пагаршэнне самаадчування ў асоб, схільных да паніжэння артэрыяльнага ціску. У мэтах прафілактыкі рэкамендуюцца прагулкі на свежым паветры, частыя праветрыванні памяшканняў, прыём лёгкіх танізуючых сродкаў.

**Антаніна КАРОЗА, навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**



# ЛАЎКА АЎТААМАТАРА

## КАЛІ МАСЛА ЛЯЦІЦЬ У ТРУБУ

Рухавік «Альфа-Рамэо-164» пачаў вельмі дыміць. Уладальнік быў азадачаны: нягледзячы на значны прабег — каля 160 тысяч кіламетраў, шасціцыліндравы рухавік захаваў вельмі добрую дынаміку і паспяхова прайшоў тэст на СО. Дымленне было асабліва бачна пры пераходзе на паніжаныя перадачы. Пры гэтым павялічыўся расход масла: да паўлітра на 400—500 км. Магчыма, недзе адбываецца ўцечка?

Калі ўцечкі няма — значыць знасіліся паршнявыя кольцы. Каб гэта праверыць, дастаткова замераць кампрэсію ў цыліндрах — хутчэй за ўсё яна будзе паніжанай. Кольцы трэба змяніць, бо рэшткі масла на сценках цыліндраў будуць гарэць, пакрываючы нагарам днішча поршняў, клапаны і свечкі запальвання. Расход масла і паніжаны ціск у сістэме змазкі могуць прывесці да паломкі.

Каб зберагчы рухавік, трэба неадкладна заняцца яго рамонтам, а не шукаць прычыну ўцечкі масла, якая, дарэчы, не выклікае дымлення з выхлапной трубы.

## ТРУБКІ ЗАСТАНУЦЦА ЦЭЛЫМІ

Пры замене шланга пярэдняга тормаза ў старых «Жыгулях» адкруціць накідную гайку трубкі вельмі цяжка.

Гайка ў выніку карозіі моцна злучылася з трубкай. Адкручваючыся ад шланга, яна скручваецца, ламаючы пры гэтым трубку.

Каб гэтага пазбегнуць, паспрабуйце накідную гайку не круціць, а толькі трымаць ключом. Сам штуцэр шланга выкручваць іншым ключом. Такім жа чынам робяць, калі трэба зняць задні тармазны цыліндр. Яго разам з трубкамі прапіхваюць, наколькі магчыма, за тармазны шчыт і, утрымліваючы накідную гайку трубкі, скручваюць з яе тармазны цыліндр. Усе дэталі застануцца цэлымі.

## НЕ ЖАДАЕШ ПЛАЦІЦЬ — ВЫКОНВАЙ ПРАВІЛЫ ДАРОЖНАГА РУХУ

- Пяць працэнтаў ад мінімальнай заработнай платы — за парушэнне карыстання моташлемамі ці рамянямі бяспекі.
- **0,2 мінімальнай заработнай платы за — захоўванне затрыманага аўтатранспарту на штрафных пляцоўках дзяржаўтаінспекцыі.**
- Ад 50 да 100 працэнтаў мінімальнай заработнай платы прыйдзецца заплаціць, калі ў вадзіцеля няма дакументаў на права кіравання аўтамабілем.
- **Штраф у памеры ад 0,1 да 0,2 мінімальнай заработнай платы — за язду без вадзіцельскіх правоў (але кожны выпадак павінен разглядацца індывідуальна; магчыма, правы проста забылі).**
- Ад 0,1 да 0,25 мінімальнай заработнай платы — за перавышэнне скорасці руху да 20 км/гадз.
- **Калі ў вас ужо няма сродкаў на паліва да аўтамабіля і вы парушаеце правілы дарожнага руху як звычайны пешаход, то гэта вам абыдзецца ў 5 працэнтаў мінімальнай заработнай платы.**
- Але калі вы вельмі «круты» хлопец ці проста прыгожая дзяўчына, то ў большасці вышэйпералічаных выпадкаў можаце проста атрымаць заўвагу ад інспектара ДАІ.

# МОМАНТ ЗАПАЛЬВАННЯ

## ЯК ПРАВЕРЫЦЬ І ПРАВІЛЬНА ЯГО ЎСТАНАВІЦЬ

Гэта вельмі адказная аперацыя, паколькі ад правільнасці ўстаноўкі запальвання ў вялікай ступені залежыць эканамічнасць рухавіка.

Правяраць і рэгуляваць устаноўку моманту запальвання можна пры дапамозе кантрольнай лямпы.

Робіцца гэта так: далучыце кантрольную лямпу паралельна кандэнсатару і паварочвайце каленчаты вал рухавіка пускавой ручкай, пакуль разносная пласціна ротара не наблізіцца да кантакту накрыўкі размеркавальніка, злучанага са свечкай першага цыліндра.

Уключыце запальванне і павольна паварочвайце каленчаты вал рухавіка, пакуль не запаліцца кантрольная лямпа.

У гэты момант меткі ўстаноўкі запальвання (гл. малюнак) павінны супасці. Калі ж лямпа не запальваецца, гэта сведчыць аб тым, што момант запальвання ўстаноўлены няправільна.

Каб адрэгуляваць устаноўку моманту запальвання, зрабіце наступнае:

— пастаўце гайку актан-карэктара (калі ён ёсць) у нулявое становішча;

— правярніце каленчаты вал рухавіка да супадзення метак устаноўкі запальвання (гл. малюнак), пры гэтым разносная пласціна ротара павінна быць накіравана ў бок кантакту першага цыліндра ў накрыўцы размеркавальніка;

— аслабце гайку мацавання размеркавальніка і павярніце яго ў той ці іншы бок да становішча, пры якім лямпа запаліцца;

— зацягніце гайку мацавання размеркавальніка;

— праверце правільнасць устаноўкі моманту запальвання два-тры разы, сумяшчаючы меткі ўстаноўкі запальвання і фіксуючы загаранне кантрольнай лямпы;

— надзеньце накрыўку размеркавальніка і праверце, ці правільна ўстаноўлены высакавольтныя правады ў накрыўцы размеркавальніка.

Вывад у накрыўцы, супраць якога знаходзіцца разносная пласціна ротара, трэба злучыць высакавольтным провадам са свечкай першага цыліндра. Як правіла, на накрыўцы размеркавальніка ў гэтага вываду стаіць лічба «1». Астатнія правады трэба злучыць са свечкамі ў адпаведнасці з парадкам работы цыліндраў рухавіка.

Пасля кожнай рэгуліроўкі моманту запальвання праверце яго аптымальнасць у руху аўтамабіля з добра прагрэтым рухавіком.

Пры скорасці 40—50 км/г рэзка націсніце на педаль акселератара. У гэты момант павінен узнікнуць на кароткі час (1—3 сек) лёгкі дэтанацыйны грукат. Калі праз 1—3 секунды грукат не спыніцца, гэта азначае, што ўстаноўлены ранні момант запальвання; калі грукату зусім няма, — позні момант запальвання. Момант запальвання ў гэтым выпадку адладжваецца актан-карэктарам (калі яго няма, то змяніце ўстаноўку моманту запальвання, пакруціўшы корпус размеркавальніка). Пры раннім моманце запальвання (моцнай дэтанацыі) гайку актан-карэктара пакруціце па гадзіннікавай стрэлцы (у бок «-»), а пры познім моманце (калі няма дэтанацыі) — супраць гадзіннікавай стрэлкі (у бок «+»). Калі карэкціроўка скончана, зноў праверце аптымальнасць моманту запальвання пры руху аўтамабіля.

Некаторыя вадзіцелі рэгулююць устаноўку моманту запальвання, не карыстаючыся кантрольнай лямпай. Яны паварочваюць корпус размеркавальніка, пакуль каленчаты вал рухавіка не дасягне максімальнай частаты.

Так можна ўстанавіць момант запальвання толькі на халастым хаду рухавіка. На іншых рэжымах работа рухавіка будзе дрэннай, з вялікім расходам паліва. Лепш затраціць больш часу, але быць упэўненым у добрай рабоце сістэмы запальвання.

Яшчэ лепш, калі момант запальвання ўстанаўліваецца з дапамогай прамысловага аўтамабільнага страбаскопа. Як ім карыстацца, вы знойдзеце ў інструкцыі.




**На малюнках**

Меткі для ўстаноўкі запальвання на аўтамабілях:

а — «ЗАЗ-968М»; б — «Масквіч-2140», «АЗЛК-21412»; в — «ВАЗ», «АЗЛК-2141»;

1 — выступ на корпусе цэнтрабежнага фільтра;

2 — установачны штыфт;

3 — метка ВМТ;

4 — метка ўстаноўкі запальвання 5°;

5 — метка апярэджвання запальвання 10°;

6 — метка на шківе каленчатага вала.

## ОФИЦИАЛЬНАЯ ТАБЛИЦА

**сорок пятого тиража выигрышей по выигрышным вкладам, состоявшегося 5 апреля 1996 г. в г. Смолевичи**

Выигрыши выпали на следующие номера счетов по выигрышным вкладам во всех учреждениях Сберегательного банка Республики Беларусь.

| Номера счетов | Размер выигрыша в процентах к средней сумме остатка вклада | Номера счетов | Размер выигрыша в процентах к средней сумме остатка вклада |
|---|---|---|---|
| А-020 | сто пятьдесят | А-551 | сто пятьдесят |
| А-066 | сто пятьдесят | А-596 | сто пятьдесят |
| А-099 | сто пятьдесят | А-617 | триста |
| А-156 | триста | А-641 | сто пятьдесят |
| А-199 | сто пятьдесят | А-698 | сто пятьдесят |
| А-200 | сто пятьдесят | А-753 | шестьсот |
| А-257 | сто пятьдесят | А-773 | сто пятьдесят |
| А-282 | шестьсот | А-806 | сто пятьдесят |
| А-343 | сто пятьдесят | А-879 | сто пятьдесят |
| А-377 | одна тысяча двести | А-888 | сто пятьдесят |
| А-429 | сто пятьдесят | А-957 | сто пятьдесят |
| А-477 | сто пятьдесят | А-994 | сто пятьдесят |
| А-485 | сто пятьдесят | | |

В учреждениях Сберегательного банка, где число счетов более одной тысячи, во всех последующих тысячах выиграли те же номера, что и в первой тысяче, т.е. за № А-1020, № А-2020 и т.д.

**Председатель комиссии:**
Лукьянов Анатолий Федорович — заместитель председателя райисполкома
**Ответственный секретарь:**
Халимон Геннадий Анатольевич — ведущий экономист АСБ «Беларусбанк»

*ГЭТА МЫ, ГОСПАДЗІ...*

## Шэф-повар дае «дабро» на ... абкраданне дзяцей

Цікавую ідэю, да якой пакуль не дадумалася беларуская навука, нядаўна ўкараніў у вытворчасць калектыў сталовай Мірскага ПТВ-234. Гэтым самавукам, якія дадуць фору любому доктару ці кандыдату, удалося здзейсніць неверагоднае: у пасудзіну (металічную міску), максімальная ўмяшчальнасць якой складае 360 грамаў, змяшчалася 500 грамаў баршчу альбо супу. Праўда, на паперы. На практыцы ж не дацягвалі і да звычайнай нормы. У выніку гэтай і іншых «рацпрапаноў» быў дасягнуты відавочны эфект. Толькі на працягу 22 снежня мінулага — 21 лютага сёлетняга года «зэканомлена» прадуктаў на 6 мільёнаў рублёў, у тым ліку 66 кілаграмаў ялавічыны, 67 — цыбулі, 34 — гароху, 73 — тварагу ды яшчэ 200 літраў малака.

«Патэнт» на сваю «распрацоўку» повар М. Раўдкатс і бухгалтар-калькулятар А. Пячэнка атрымалі ад Службы кантролю Прэзідэнта па Гродзенскай вобласці: яны пазбаўлены магчымасці працягваць «эксперыменты» на пэтэвушніках. Акрамя таго, вопыт «наватараў» цяпер вывучае міліцыя Карэліцкага раёна. Дарэчы, усё геніяльнае не заўсёды простае, бо нават медсястра вучылішча Т. Гаўрош, якая праводзіла бракераж страў, не здолела растлумачыць кантралёрам сутнасць ... сваіх жа запісаў у адпаведных дакументах. Што ж датычыць спецыялістаў аб'яднання грамадскага харчавання Карэліцкага райспажыўтаварыства, дык у іх у гэтым навучальным годзе не хапіла часу на праверку сталовай ПТВ-234 і таму аб здольнасцях сваіх падначаленых яны даведаліся толькі ад Службы кантролю.

Тым часам навокал толькі і чуваць пра крызіснае становішча з харчаваннем падрастаючага пакалення. Маўляў, і таго няма, і гэтага не хапае. Ратуй, дзяржава! Яна, чым можа, дапамагае. Аднак у шэф-повара Гродзенскай школы-інтэрната для дзяцей са слабым зрокам Т. Дзямковіч, аказваецца, ёсць і ўласны інтарэс. З прадугледжаных на снеданне 52 літраў малака яна недадае навучэнцам 22,4 літра, альбо 43 працэнты ад нормы. А повар А. Бурава крадзе ад іх сушаную дыню, хавае ў шафе. Але тут яе, як гаворыцца, «на гарачым» ловяць кантралёры. Яны ўсё бачаць, не тое што дзеткі са слабым зрокам. І тады дыня, якая павінна была трапіць у кампот для школьнікаў, накіроўваецца ў ... харчовыя адходы. Дарэчы, толькі за перыяд з першага верасня леташняга па пятае лютага сёлетняга года «прадпрымальныя» спецыялісты з гэтай школы дзякуючы розным хітрыкам залішне спісалі на харчаванне навучэнцаў 478 кілаграмаў ялавічыны, 168 — свініны і 95 кілаграмаў куранят-бройлераў на агульную суму 22,6 мільёна рублёў. Ну і што за гэта? Повары З. Ліс і А. Бурава, медсястра Н. Кардаш атрымалі ад адміністрацыі школы-інтэрната заўвагу, шэф-повар Т. Дзямковіч — вымову. Аддзел адукацыі Ленінскага райвыканкома г. Гродна «пакараў» дырэктара школы Т. Чарвякову заўвагай. Ніякай спробы кампенсаваць страты за кошт віноўных асоб не зроблена, бо ва ўсім вінаваты выключна «памылкі і недастатковая кваліфікацыя»...

А вось повары сталовай Шчучынскага ПТВ-198 Г. Баранава і Д. Бабіцкая на дрэнную кваліфікацыю не скардзіліся, бо дылетанту, відавочна, не па зубах тое, што ўдалося гэтым «прафесіяналам». За месяц з невялікім «гакам» яны «зэканомілі» 755 літраў малака і 22 кілаграмы тварагу (альбо больш чым на 3,5 мільёна рублёў) — гэта адпаведна 50 і 18 працэнтаў ад таго, што павінны былі з'есці навучэнцы. Адначасова выяўлена нястача шніцэляў і катлет, якія каштуюць прыкладна 2,8 мільёна рублёў.

Пасля гэтага, вядома, трэба зноў прасіць фінансавую датацыю.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

*Вялікую і дружную сям'ю Трайковічаў віншуем з днём Вялікадня. Няхай Вас любяць людзі і Бог!*
**Трайковічы (сын з сям'ёй).**

**МЕТАЛЛОПРОКАТ:**
- лист х/к и г/к;
- уголок, швеллер;
- проволока ОК, ВІ и ВРІ;
- электроды сварочные АНО, МР и УОНИ;
- гвозди строительные;
- сетка рабица и др.

*Тел./факс (0172) 45-01-42.*

ПРАДАЕМ
- ЦУКАР;
- АЛЕЙ
*(бочкі 200 л)*
Купляем трактары
МТЗ-80, 82
Тэл. у г. Мінску: 26-25-28, 26-25-29.

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
**Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».**

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

**Рэгістрацыйны нумар 1.**

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 113.326 Індэкс 63850.
Зак. № 1819.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12